№ 8 (217) 19 лютага 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## МАШЭРАЎ ПРАЦУЕ НА РАСЕЮ

Унуку першага сакратара спэцыяльна пакінулі прозьвішча дзеда. Ён жыве ў Маскве і працуе ў расейскім міністэрстве замежных справаў...

**Новая кніга сястры Машэрава.**

**Старонка 10.**

## ЗАСАДА



Павал Севярынец

IREX-PROMEDIA

*Зь вечара 14 лютага каманда міліцыянтаў пільнавала на ганку сядзібы БНФ, каб арыштаваць Паўла Севярынца за "арганізацыю несанкцыяванага шэсьця" на Дзень сьвятога Валянціна. Фронтаўцы, маючы досьвед адбіцьця налётаў, замкнуліся загадзя. Міліцыянты дзяжурылі ў машыне ўсю ноч і наступны дзень. Іншая міліцыйная каманда ўззяла на прыцэл і задняя дзьверы сядзібы. Гэтыя для падстрахоўкі залапілі вочка пляйстрам і падпёрлі дзьверы тоўстым калом. "Пастаўце на месца!" — крычэлі яны кожнаму, хто маніўся скрасьці дубец "на дровы". А Севярынец так і не выходзіў. Маёр Гірэль таксама не даваў сваім людзём каманды ўламіцца, бо ня меў санкцыі на арышт. 16-га знадворнае назіраньне зьнялі. Міліцыянты начквалі ў засадзе ў спэцыяльна падагнаным тралейбусе на іншым баку вуліцы. Тады выпусьцілі й самога Паўла, зморанага двухдзённай аблогай. Тутака яго і ўзялі. Павезьлі ў суд, а судзьдзя выпусьціла дa паняздзелка пад падпіску пра нявыезд, бо сьпяшалася на сустрэчу з Лукашэнкам. Прысуд стане вядомы сёньня.*

# Рэабілітацыя

## *Украіна разьвітваецца з каляніяльным правапісам 1933 году*

У Кіеве ідуць палітычныя баталіі. Кааліцыя рэфарматараў, сацыялістаў, часткі нацыяналістаў і адзіных энэргетычных сыстэмаў Украіны спрабуе скінуць прэзыдэнта Кучму. Сацыял-дэмакраты, народныя дэмакраты, партыя ўлады, анархісты і другая частка нацыяналістаў яго абараняюць. Камуністы, Натальля Вітрэнка, дэмакрат прэм'ер-міністар Юшчанка і трэцяя частка нацыяналістаў занялі пазыцыю чаканьня "ні нашым ні вашым". Лібэрал і дзяржаўнік Юшчанка разьлічвае пераняць ад Кучмы вагары кіраваньня ў выніку эскаляцыі дзяржаўнага крызысу, а камуністы, прагрэсіўныя сацыялісты і трэцяя частка нацыяналістаў якраз гэтага баяцца. На Хрышчацiку паўстаў палатачны стан, з усіх канцоў краіны ў сталіцу сьцякаюцца ручаінкі бунтароў, каб дамагацца імпічмэнту Кучмы.

Карацей, сапраўдны крызыс улады, які, нібы ў любой культурнай эўрапейскай сталіцы, найхутчэй скончыцца *"адстаўкай кабінэту"*. То бок нічым. Прыйдзе новы *"кабінэт"*, або нават будуць новыя выбары. Няхай Украіне жывецца скрушна, хай там рэдка дзе і калі бывае гарачая вада, а натуральная гаспадарка нават на чарназёме зь цяжкасьцю забясьпечвае патрэбы гараджанаў-дачнікаў, усё ж Украіна ўжо дасягнула шчасьлівага для сярэднеэўрапейскай краіны стану, калі *"адстаўкі кабінэту"* нічога не зьмяняюць.

Кіеў — вольны горад. Там ужо даўно ў цягніках мэтро езьдзяць сабакі, тралейбусы даходзяць не да ўсіх мікрараёнаў, а каштоўныя кнігі XIX ст. у букіністычных крамах можна набыць за капейкі. Эканамічна — там бяда. Але духоўна — там рай. У Кіеве выдаюцца шыкоўныя тыднёвікі, месячнікі і штодзённыя газэты паўкраінску, пра якія мы можам толькі марыць, сотні кніг — арыгінальных і перакладных, працуюць дзясяткі якасных украінскамоўных тэлеканалаў. Сярод страшэннай дэградацыі грамадзтва і палітычнага хаосу ўкраінская інтэлігенцыя працягвае рабіць тое, што ўважае галоўным, — абнаўляе падваліны нацыянальнага дому. Піша падручнікі па гісторыі, умацоўвае недзяржаўны ўнівэрсытэт — Кіева-Магілянскую Акадэмію, спраўджвае зьнявечаны сталінскімі камісарамі ўкраінскі правапіс. Менавіта таму, што інтэлігенцыя робіць сваю справу, не зважаючы на палітычны клімат, гэты самы клімат ва Ўкраіне застаецца ўмераным, а не кантынэнтальным. Гарачае лета не зьмяняецца сьцюдзёнаю зімой, як у нас. А палітычны курс краіны вагаецца зусім незаўважна, калі параўноўваць зь беларускімі шараханьнямі. Зьмену прагнілага рэжыму Кучмы на кіраваньне вечнага апазыцыянэра Мароза або дэмакрата Юшчанкі наўрад ці заўважаць настаўніцы ўкраінскай мовы. Ня тое, што ў нас — зьмену Лукашэнкі на ягонага апанэнта. А рашэньне Кабінэту міністраў Украіны, які днямі мае зацьвердзіць частку, а можа і ўсе 19 зьмяненьняў, падрыхтаваных Нацыянальнай камісіяй па пытаньнях правапісу пры Кабінэце міністраў, настаўніцы мусяць заўважыць. Гэта і ёсьць тая самая "стабільнасьць дзяржавы", якая гэтак муляе "шклоўскаму стоду".

**Працяг на старонцы 4.**

# Забудзь сваё імя

**Нядаўна ў інфармацыйных паведамленнях прамільгнула малазаўважная зьвестка пра зьнікненьне аўтамабіля, што належаў прагаме БТ "Зона Х". Як вынікае, гісторыя зь ягоным зьнікненьнем атрымала своеасаблівы працяг. 10 лютага ў 16.40 міліцыя на аўтамабільным рынку ў Ждановічах арыштавала Аляксандра Чыгіра, Васіля Быкава і іх сябра Сяргея Каляду па падазрэньні ў продажы скрадзеных аўтадэталяў. Паводле словаў сьледчых, у гаражы Аляксандра адшукалі мікрааўтобус "Форд", што належаў тэлепраграме. Гучныя прозьвішчы адразу прыцягнулі да сябе ўвагу.**

Стоячы на ганку Маскоўскага РАУСу, Юлія Чыгір зьвярнулася да журналістаў, кажучы пра тое, што гэта чыста палітычная справа, у якую ўлады ўмяшалі сваякоў вядомых у Беларусі людзей — сына патэнцыйнага кандыдата ў прэзыдэнты Міхала Чыгіра ды пляменьніка Васіля Быкава, вымушанага эмігранта. Поруч зь ей стаяла Наста Быкава, жонка арыштаванага, са сваім айчымам. Нечакана праз колькі дзён адвакатка Быкава спн.Тарасюк абвесьціла, што ейны падабаронны ня мае ніякага дачыненьня да справы з выкраданьнем аўтамабіляў і, больш за тое, не зьяўляецца сваяком пісьменьніка Васіля Быкава. Мы зьвярнуліся да спадарыні Чыгір з просьбаю патлумачыць сытуацыю.

Паводле словаў Юліі Чыгір, яна знаходзіцца ня ў меншай разгубленасьці, чым усе астатнія. Калі яна ня мела рацыі, прылюдна кажучы пра сваяцтва Быкава, дык чаму ягоныя родныя — тая ж Наста — не спынілі яе? Спн.Чыгір кажа, што раней усе ў іхнай сям'і былі пэўныя: Васіль — пляменьнік знанага беларускага пісьменьніка.

Упершыню Васіль зьявіўся ў сям'і Чыгіроў каля 8 месяцаў таму. Тацьцяна, жонка Аляксандра Чыгіра, аднаго з затрыманых, са школы сябравала з Настай. Сваяцтва Быкава было нечым абсалютна звыклым і натуральным, не выклікала сумневу. Дарэчы, часьцей пра гэты факт казала менавіта Наста, а ня сам Васіль.

Чыгіры не размаўляюць з Быкавымі пра тое, што адбылося. Адзінае, што сказалі Насьце, каб тая паразмаўляла з адвакаткаю ды патлумачыла ёй, што абараняцца трэба ўсім разам, а ня кожнаму паасобку. Наста адмоўчваецца. Паводле словаў спн.Чыгіровай, Васіль — вельмі добры хлопец, прыемны, адукаваны й ветлівы. Яна разумее складанасьць сытуацыі і ня хоча, каб дзеці перасварыліся, і не жадае нашкодзіць Васілю. Таму, відаць, яна ўстрымліваецца ад нейкіх вэрсіяў, здольных патлумачыць такі паварот падзеяў.

Выглядае на тое, што спн.Тарасюк зрабіла такую заяву, каб дапамагчы свайму кліенту. Дапамога аказалася надзіва дзейснаю — 15 лютага Васіль Быкаў вярнуўся дадому.

**Працяг на старонцы 2.**

# Бюлетэні і сэмінары

Шчыра кажучы, цяпер неяк шкада 10-ці гадоў, што аддаў на незалежніцкія справы. І шкада ня ў тым сэнсе, што высілкі былі марныя ці ідэя ня вартая – не. За гэтыя гады спрабаваў рабіць сваю справу як найлепш, дамогся сяго-таго, дый урэшце сыну будзе ня сорамна ў вочы глядзець, калі дарослым запытаецца, што я рабіў пры дыктатуры. А шкада таму, што цяпер, напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, сустракаючы сяброў, суседзяў і знаёмых, зь якімі быў страчваў голас у спрэчках пра тое, што змагацца – варта і што мы, апазыцыянэры, вартыя даверу й павагі людзі, ня маю чаго ім сказаць. Бо любая ідэя ўспрымаецца перш за ўсё праз ейных носьбітаў. Цяпер людзі ўвесь час кажуць, што мы самі паміж сабой "разабрацца" ня можам. Сапраўды, пра які прыход да ўлады можна казаць, калі мы ня можам дамовіцца ды вылучыць адзінага кандыдата? Як патлумачыць людзям тое, што КРДС, ведаючы, што іхнага кандыдата, паводле статыстыкі, падтрымае ня больш за 10–12% беларусаў, усё адно зьбіраецца праводзіць Кангрэс Дэмакратычных Сілаў ды вылучаць кандыдатам чалавека, асуджанага на паразу, менавіта на ім? Як патлумачыць і тое, што ў такі лёсавырашальны момант добрая частка інтэлектуальных рэсурсаў апазыцыі накіраваная на паліваньне брудам адзін аднаго?

Ува мне яшчэ жыве слабая надзея, што ўсё, што цяпер адбываецца ў апазыцыйным лягеры вакол прэзыдэнцкіх выбараў, – гэта папросту добрая тактычная гульня. Няхай, маўляў, цяперашнія ўлады добра нацешацца, усяляк дыскрэдытуючы ўжо заяўленых кандыдатаў, а мы, уключаючы і КРДС, і "Выбар-2001", і яшчэ хто там ёсьць, пакуль употай падрыхтуем іншага, незасьвечанага незалежнага кандыдата, ды, дамовіўшыся разам яго падтрымліваць, па-сапраўднаму "раскруцім" ды пакажам электарату напярэдадні выбараў.

Яшчэ колькі словаў пра агітацыю. Давялося днямі наведаць глухую палескую вёсачку. У размове адна паважнага веку кабета сказала, што яна будзе галасаваць за Лукашэнку, бо "ён за саюз". А пры саюзе ў яе хаце заўсёды працавала радыёкропка, а цяпер – не працуе, бо няма за што замяніць стары гнілы дрот. Дык вось, замест выданьня соцень нікому не патрэбных бюлетэняў ды правядзеньня "тусовачных" сэмінараў ці ня лепш купіць сто разоў па сто мэтраў дроту для радыёкропкі ды праз яго падключыць той вясковай кабеце, ды тузіну іншых, радыёбрахалаўку. Тады вёска, нягледзячы на тое, што на гэтым радыё гавораць, напэўна прагаласуе за "добрых людзей, якія хоць нешта нам зрабілі".

Цягам апошніх 7–8 гадоў, напэўна, найбольш папулярны сярод беларускіх дэмакратаў занятак – гэта правядзеньне розных адукацыйных сэмінараў. Плянавалася, што ўдзельнікі сэмінараў будуць усяляк разносіць свае веды і такім чынам дэмакратычны асяродак значна пашырыцца. (Дарэчы, лацінскае слова *"seminarium"* у беларускай мове мае файны адпаведнік – "гадавальнік"). І што цяпер? Каго шматлікія "школы лідэрства" выгадавалі і што слухачы курсаў па "дэмакратычным будаваньні" пабудавалі? Вельмі дэмакратычны асяродак пашырыўся? Аднак "сэмінарны бум" працягваецца. Асабіста я ўжо гады 3-4 як перастаў езьдзіць на ўсялякія неакрэсьленага зьместу "тусоўкі" і калі, часам, па журналісцкіх справах іх наведваю, дык бачу на 90% тыя ж твары, што і 5 гадоў таму. Як нейкая асобная каста наведнікаў сэмінараў! Ужо пару разоў чуў, як нейкі маладзён-арганізатар сэмінару запрашаў туды дзеля колькасьці свайго знаёмага ды, маючы праблему з тлумачэньнем мэтаў ды тэматыкі мерапрыемства, казаў: "Ну прыходзь, хоць паабедаеш на халяву"... А якія гатэлі...

Дзеля справядлівасьці хачу адразу папрасіць прабачэньня ў тых людзей, што ладзяць сапраўды карысныя мерапрыемствы – вучаць карыстацца кампутарам, дапамагаюць рэгіянальным журналістам - гэта не пра вас!

Бюлетэні, ці, як іх яшчэ называюць, "лісткі" - таксама вельмі распаўсюджаны мэтад апазыцыйнай дзейнасьці. Ізноў жа, яшчэ гадоў 5-6 таму, хай сабе і непрафэсыйна зьвярстанае незалежнае выданьне на аркушы памеру А3 магло зьдзівіць ды выклікаць цікавасьць, асабліва ў правінцыі. А цяпер? З уласнага досьведу магу казаць, што распаўсюджаньне раздрукаванага ў якім-небудзь рэсурсавым цэнтры на файнай фінскай паперы бюлетэню выклікае сярод людзей усё больш нянавісьці. Гэта яшчэ калі распаўсюджваць... Але ж большасьць гэтых выданьняў увогуле прызначаная "для ўнутранага карыстаньня" – гэта значыць, каб пераконваць адзін аднаго. Паміж сэмінарамі.

А добра абсталяваныя офісы з "эўрарамонтам", супэровымі кампутарамі, выхадам да Інтэрнэту... І што ад усяго гэтага? Я не вялікі палітык, і можа быць шмат чаго "ў сталічных маштабах" не разумею, але калі нашаю мэтаю ёсьць перадусім вольная, незалежная ды дэмакратычная Беларусь, дык што ж мы робім, каб дамагчыся сваёй мэты?

За грошы, што ідуць на самы маленькі сэмінар, можна набыць пару тысячаў лямпачак ды паўгоду ўкручваць іх ва ўсе пад'езды гораду, пакідаючы цыдулачкі на дзьвярох, што гэта "бээнэфаўцы" зрабілі. А на запісачкі можна бюлетэні скарыстаць.

Паводле маіх падлікаў, калі скласьці грашовыя ды інтэлектуальныя рэсурсы шматлікіх выдаўцоў разнастайных бюлетэняў, весьнікаў ды аглядаў, можна раз на тыдзень выдаваць мільённым накладам, хай сабе й на шэрай паперы, бясплатную газэту для ўсіх і для кожнага. З "праграмай ТВ". Такую газэту беларус наўрад ці выкіне ў сьметнік – праграмы будзе шкада – а матар'ялы так ці іначай прачытае.

Ды што тут новая газэта, калі мы нават бібліятэкі на ўжо існыя дэмакратычныя выданьні падпісаць ня можам!

А дзе тысячы простых, зразумелых звычайнаму чалавеку брашураў па гісторыі Бацькаўшчыны? Бясплатныя касэты зь беларускімі сучаснымі ды традыцыйнымі песьнямі? Дарэчы, у часе дэмакратычных зьездаў ды ў офісах некаторых незалежніцкіх арганізацыяў беларускія касэты ды літаратуру "свае" гандляры прадаюць "сваім" аднадумцам значна даражэй, чым у звычайным несьвядомарасейскамоўным кіёску.

Дык хіба гэтага ніхто не разумее?

Напэўна што разумеюць. Тады, можа, "неспрыяльныя ўмовы", дыктатура, перасьлед? Маўляў, за бюлетэні і сэмінары пакуль асабліва не караюць. Тут варта ўзгадаць файны анэкдот пра аднаго маладафронтаўца, які сабраўся паміраць ды падаў у выканкам заяўку на правядзеньне апазыцыйнага мітынгу каля ягонай магілы. Дык вось, дазволу ўлады не далі, дый у пазначаны дзень надвор'е было жахлівае – дождж, холад. Ну, як тут, у такіх "неспрыяльных для Бацькаўшчыны ўмовах", памрэш? Хаўтуры былі адмененыя.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Мо Вячорка з Саньнікавым прачытаюць...

Чытаў нумар "НН" пра галоўныя падзеі стагодзьдзя, глядзеў здымкі, і вось якія думкі прыйшлі мне ў галаву. У тым годзе БНФаўцы ўсе Баранавічы заляпілі ўлёткамі, заклікаючы на мітынг, прысьвечаны Дню Волі. Улёткі былі вельмі "звычайныя" і ніякага ўражаньня на людзей не рабілі, проста нагадвалі пра сьвята.

Мне здаецца, што сёлета да гэтага трэба падысьці больш грунтоўна. Файна было б зрабіць улёткі зь нейкім фота ўраду БНР. З тэкстам простым і сьцьвярджальным, бязь сьлёзаў і поклічаў. З абавязковым пазначэньнем імя і прозьвішча кожнага ўрадоўца і ягонай пасады. І лепей хай будзе менш тэксту, але фота павінна быць як мага большым. Прынамсі, твар і вочы павінны глядзецца выразна. Высакароднасьць твараў міністраў БНР скажа болей за тэкст. Хай бы тая кампанія ахапіла ўсю Беларусь, не выключаючы вёскі.

**P.S.** Зараз паменела антыбеларускага настрою ў грамадзтве. Можа, гэта і адыграе ролю ў другой палове гэтага году. А можа, гэта толькі жаданьні, мае жаданьні...

**Адам Браніцкі, Баранавічы**

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Апазыцыя

Зь вядомых прычынаў апошнім часам гэты тэрмін выкарыстоўваецца вельмі шырака, дык хацелася б паразважаць, а што, уласна, пазначае само слова "апазыцыя".

Вось як трактуецца гэты тэрмін у самым раньнім з даступных мне выданьняў. Гэта "Словарь иностранных слов под ред. И.В.Лёхина и проф. Ф.Н.Петрова" (Масква, 1954).

"Апазыцыя – (лац. *oppositio* – супрацьлеглае становішча) – 1). Процідзеяньне, супрацьстаўленьне сваіх поглядаў, сваёй палітыкі якой-небудзь інакшай палітыцы, інакшым поглядам. –2). Буржуазна-парлямэнцкая апазыцыя – у капіталістычных краінах – процідзеяньне або адмова ў падтрымцы ўраду з боку партыі або групы буржуазіі, якія ня ўдзельнічаюць ва ўрадзе; адна з формаў барацьбы ў лягеры буржуазіі, якая не закранае ейнага панаваньня як клясы, а, наадварот, мкнецца ўмацаваць гэтае панаваньне. –3). Былая апазыцыя ў ВКП(б) – антыпартыйная, апартуністычная групоўкі... Апазыцыянэры (трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы, нацыянал-ухланісты ды інш.) у барацьбе супраць Камуністычнае партыі, дыктатуры пралетарыяту ды савецкага народу даўно ператварыліся ў страшэнных ворагаў народу, яны – беспрынцыпная й безыдэйная банда шкоднікаў, дывэрсантаў, разьведчыкаў, шпегаў, забойцаў, банда заклятых ворагаў рабочае клясы, якая дзее на заказ разьведвальных органаў замежных дзяржаваў...".

*У выпадку перамогі Лукашэнкі прэзыдэнцкіх выбараў больш ня будзе ніколі, бо нельга аднаму й таму самаму чалавеку балятавацца на трэці тэрмін.*

Перапрашаю за такое працяглае цытаваньне. Яно мне спатрэбілася не дзеля таго каб адчуць асалоду ад самога чытаньня гэтага тэксту – ад усьведамленьня, што хвароба камунізму нашым грамадзтвам хоць не бяз страт, але збольшага ўжо адужаная. І нават не затым, каб паказаць, адкуль "растуць ногі" ў цяперашняй антызаходняй афіцыйнай рыторыкі. Поўнае цытаваньне артыкулу са старога слоўніка мне спатрэбілася дзеля таго, каб паказаць: тут *нідзе* не гаворыцца пра большасьць або меншасьць, хаця камуністы пры нагодзе апэляцыі да большасьці ніколі б не прамінулі – яны ж у самім назове сваёй партыі мелі слова "бальшавікі". Але ж тут няма дзеля гэтага нагоды. Слова "апазыцыя" адлюстроўвае наяўнасьць дзьвюх адрозных пазыцыяў, і больш *нічога*. Адна з пазыцыяў, калі вядзецца аб палітыцы, належыць дзейнай уладзе, а супрацьлеглая ёй пазыцыя – "а"-пазыцыя – апанэнтам гэтае ўлады. У час хуткіх зьменаў у грамадзтве і чалавечым мысьленьні цалкам магчыма такое, што тыя погляды, выразьнікам каторых працягвае зьяўляцца дзейная ўлада, больш не зьяўляюцца поглядамі бальшыні людзтва той або іншай краіны. Тады пад час наступных выбараў ідэя, носьбітам якой была апазыцыя, перамагае, былая апазыцыя становіцца ўладай, былая ўлада – апазыцыяй, у грамадзтве адбываецца прагрэс.

Але мы працягваем чытаць слоўнікі. Вось у расейскім тлумачальным слоўніку пад рэдакцыяй Ожэгава "бальшыня" ўжо зьяўляецца. Першае значэньне слова "апазыцыя" практычна супадае з працытаваным вышэй, а другое значэньне – гэта ўжо "група асобаў унутры таго або іншага грамадзтва, арганізацыі, партыі, якая праводзіць палітыку процідзеяньня, супраціву *бальшыні*".

Ожэгаў, мабыць, для нашых аўтараў большы аўтарытэт, чым лаціняне. І вось абсалютна такая самая трактоўка другога значэньня гэтага слова даецца ў Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы пад рэдакцыяй М.Судніка і М. Крыўка (Менск, "Беларуская энцыклапэдыя", 1999). Толькі замест "група асобаў" яны ўжылі "група людзей", а пасьля слова "партыі" паставілі "і пад.". Як кажуць, прыехалі. Калі пагадзіцца з такім вось "навуковым тлумачэньнем", якое зусім беспадстаўна давешваецца да слова з абсалютна празрыстай этымалёгіяй, то ўжо ня будзе здавацца поўным нонсэнсам выказваньне адной вядомай асобы, што "апазыцыя ніколі ня прыйдзе да ўлады". Апазыцыя ў такім вось навукова-пашыраным значэньні слова – ясна, што ніколі, бо да ўлады "дзэмакрацічаскім пуцём" прыходзяць тыя, хто мае большасьць – у дадзеным выпадку большасьць на выбарах. А апазыцыя ў першапачатковым, лацінскім значэньні – прыйдзе, абавязана прыйсьці, бо толькі такім шляхам можа адбывацца грамадзкі прагрэс. Трэба проста сфармуляваць сваю пазыцыю такім чынам, каб яна была зразумелай і прымальнай для бальшыні тых, хто возьме ўдзел у выбарах. Некалі той чалавек, які першы вынайшаў кола, таксама быў у апазыцыі да астатніх людзей. Тыя прызвычаіліся былі абыходзіцца й бяз гэтага вынаходзтва. Аднак ідэя была настолькі прадуктыўнай, што праз пэўны час авалодала сьветам.

У цяперашняй апазыцыі ёсьць ідэя. І гэта самая вялікая, самая велічная ідэя, якая толькі можа быць, – ідэя абароны дзяржаўнасьці. На жаль, улада пойдзе на правядзеньне прэзыдэнцкіх выбараў *толькі адзін раз*. У выпадку перамогі "кандыдата ад улады" ў Беларусі прэзыдэнцкіх выбараў больш ня будзе *ніколі*, бо нельга аднаму й таму самаму чалавеку балятавацца на трэці тэрмін. Выхад будзе знойдзены, гэты выхад рыхтуецца ўжо цяпер. У 2005 г. Беларусь станецца генэрал-губэрнатарствам, і генэрал-губэрнатар будзе прызначацца Масквой – хоць пажыцьцёва. Застаецца толькі спытаць, дзе тут інтарэс *бальшыні* грамадзтва – ці хаця б інтарэс групы асобаў. Такая сытуацыя выгадная толькі *аднаму* чалавеку. І ня выгадная нават найбліжэйшым ягоным хаўрусьнікам.

Такім чынам, прыклад нашай краіны пацьвярджае, што наданьне слову "апазыцыя" нейкага дадатковага, не ўласьцівага яму сэнсу – дастасаваньне да яго колькаснага крытэру большасьці або меншасьці – няслушнае. Яно было зробленае за параўнальна недалёкім часам і, відаць, наўмысна – каб зьбэсьціць самую ідэю апазыцыі як неабходнага чыньніка грамадзкага прагрэсу. Дык будзьма пільнымі, калі чытаем або ўжываем гэтае слова.

**Аляксандар Урбановіч, Гомель**

## ВОДГУК

**Шаноўны спадар рэдактар,**

пішу Вам як мовазнаўца. У апошнім нумары Вашае газэты, у артыкуле Барыса Тумара, пасьлядоўна ўжываецца слова «бэнэфісты». Гэта – відавочна аўтарскі наватвор, на абгрунтаванасьці й сэнсавых канатацыях якога я хацеў бы спыніцца.

Для беларускае мовы суфікс -іст ёсьць іншамоўным. Як правіла, ён запазычваўся ў складзе «гатовае», узьніклае ў іншай мове лексэмы: цымбаліст(ы), журналіст, камуніст. Калі ж суфікс -іст, ужо як словаўтваральны рэсурс беларускае мовы, служыць для ўтварэньня новых словаў у нашай мове, ён дадаецца да іншамоўнае ж утваральнае асновы: харыст, скандаліст. Да спрадвечнабеларускіх утваральных асноваў дадаюцца іншыя, спрадвечнабеларускія ж, суфіксы *nomina agentis:* бляхар, бягун, паромнік і інш. (Зрэшты, падобна і ў расейскай, украінскай, польскай.) А калі суфікс -іст дадаецца да незапазычанае асновы (у тым ліку скароту), у выніку паўстае слова з паніжальным адценьнем: хвасьціст, адзавіст, кагэбіст (і гэбіст), энкавэдзіст (хтосьці захоча спрачацца, ці мае такое ж адценьне слова чэкіст; мне здаецца, мае), урэшце, пафігіст, дафяніст і лукашыст.

У беларускай мове вытворныя ад скаротаў наагул непажаданыя і часта, незалежна ад суфіксацыі, маюць пэяратыўнае (паніжальнае) адценьне. Так, словам бээнэфавец (дзеля Бога, не бэнээфавец) камуністычная, а потым лукашэнкаўская прапаганда нас сьвядома ярлыкавала, ня хочучы называць фронтаўцамі (як самі сябе мы пасьлядоўна завем). Але гэтае слова прынамсі ўтворана паводле нейкіх правілаў: і скарот правільна чытаецца, і суфікс прылеплены ўласнабеларускі. Згадаю яшчэ Ваську Калпэсэсаўцава – героя апавяданьняў Міколы Бусла. Дарэчы, вас, шаноўныя нашаніўцы, ніхто энэністамі пакуль не называе.

Такім чынам, слоўца «бэнэфіст» – двойчы абразьлівае. Нехта, схаваны пад псэўданімам Барыс Тумар, хочучы пахаваць Фронт, разам з тым дэкляруе вернасьць нацыянальным каштоўнасьцям. Дык жа шануйма сваё, паважайма прынамсі лепшую частку фронтаўскае гісторыі, не абражайма тысячы ахвярных людзей, што ідэнтыфікуюць сябе з Фронтам і ніколі так брыдка сябе не называлі, не падказвайма казіяткам новых ярлыкоў.

Сп.Тумару, калі ён не адчуў абразьлівага адценьня выдуманага слоўка, раю ўзгадаць Лява Талстоя: ану, як той патрабаваў абыходзіцца зь пісьменьнікамі, што не разумеюць ужытага імі ж слова? (Іншая рэч, калі гэта сьвядома; тады *no comments.*) А рэдакцыя мусіць зважаць: нягледзячы на ўсё, засталіся яшчэ ў Беларусі людзі, якія вераць, што мова «НН» ёсьць узорнаю.

**Зь нязьменнаю павагаю,**
**Вінцук Вячорка**

# Расколатая дзяржава

*Воля Курдыстану трымаецца на ракетных ударах, якія наносяць па Іраку саюзьнікі*



Праз 10 гадоў пасьля вайны ў Затоцы курды насамрэч наблізіліся да стварэньня сваёй дзяржавы. У 1991 г. для абароны курдзкага насельніцтва Іраку ад іракцкіх жаўнераў, якія вынішчалі курдаў цэлымі гарадамі, была створаная ахоўная зона на поўнач ад 36-й паралелі (такая ж зона была створаная на поўдні краіны для абароны шыіцкага насельніцтва). У выніку іракцкім войскам было забаронена дзейнічаць у ахоўнай зоне, а за выкананьнем гэтых умоваў пачала сачыць амэрыканская й брытанская авіяцыя. Пры найбліжэньні да гэтых зонаў іракцкія вайсковыя аб'екты зьнішчаюцца.

Спачатку нават на абароненай зямлі па-ранейшаму панавала нэндза, голад і ў дадатак грамадзянская вайна. Але гады тры таму сытуацыя пачала мяняцца – пачаўся эканамічны ўздым, на думку курдзкіх урадоўцаў, зьвязаны з рэзалюцыяй ААН №986. Тады, пры канцы 1996 г., была распачатая праграма "Нафта — на харч", што дазволіла Іраку прадаваць нейкую частку сваёй нафты, а 13% (адпаведна з доляй курдаў у агульнай плошчы й колькасьці насельніцтва краіны) гэтых нафтавых прыбыткаў пачалі аддаваць курдам. Але ёсьць і іншая прычына паляпшэньня эканамічнае сытуацыі — маштабная кантрабанда іракцкага паліва ў Турэччыну. У адрозьненьне ад ізаляванага Іраку курдзкае дзяржаўнае ўтварэньне мае простыя сувязі з Турэччынай.

Вынікі эканамічнага росту відавочныя — мноства будаўнічых пляцовак у курдзкіх местах, багатыя базары. Многія курды пачалі атрымліваць сталы заробак. Каля 15 даляраў у сярэднім атрымоўвае служачы курдзкае адміністрацыі – а іхныя іракцкі калега толькі 2. Ва ўнівэрсытэце курдзкай сталіцы, Арбілю, выкладаюць прафэсары з Багдаду, бо курды плацяць ім 300 даляраў у месяц, а ў Багдадзе — толькі 10. У "Вольны Курдыстан" пацяху йдзе й замежны бізнэс – спачатку гэта былі туркі, цяпер жа зьявіліся *Alcatel, Siemens, ABB*.

Ад нелегальнага паліўнага гандлю і легальнага гандлю іншымі таварамі мае прыбыткі найперш наймацнейшая палітычная сіла Іракцкага Курдыстану – пратурэцкая Дэмакратычная Партыя Курдыстану Масуда Барзані (сына легендарнага курдзкага правадыра Мустафы Барзані). Яна кантралюе захад вольнае зоны і мяжу з Турэччынай. З ДПК канкуруе праіранскі Патрыятычны Зьвяз Курдыстану Джалала Талабані, які кантралюе меншы ўсходні кавалак Курдыстану на мяжы з Іранам. У той час як сродкі ад нафты падзеленыя паміж двума партыямі пароўну, грошы ад кантрабанды ідуць у асноўным Барзані. Пасьля вайны ў Затоцы вечна разьяднаныя кланы аб'ядналіся, каб выгнаць са сваёй зямлі С.Хусэйна, а ў 1992 г. была нават дасягнутая дамоўленасьць пра правядзеньне супольных выбараў і стварэньне ўраду на парытэтнай аснове. Але праз колькі месяцаў згоды старыя фэўдальныя сваркі й спрэчкі пра падзел кантрабандных грошай зноў прывялі да звады, і ў 1994 г. пачалася адкрытая грамадзянская вайна. Талабані падтрымлівалі іранцы і аджаланаўская Працоўная Партыя. Барзані ж атрымаў дапамогу Анкары, а ў жніўні 1996 г. нават паклікаў на помач Садама. У грамадзянскай вайне загінулі тысячы курдаў. Быў заключаны шэраг марных мірных пагадненьняў (апошняе — у жніўні 1998 г. у Вашынгтоне), але й сяньня на курдзкай зямлі хутчэй перамір'е, а не трывалы мір. Таму й сёньня тысячы курдаў працягваюць пераходзіць турэцкую мяжу і ўцякаць у Эўропу.

Тым ня менш пацяху ўсталёўваюцца курдзкія дзяржаўныя інстытуцыі – створаная ўжо нават свая ДАІ. Гэта выклікае непакой у Тэгеране, Дамаску, Багдадзе і Анкары, напалоханых посьпехамі курдзкага дзяржаўнага будаўніцтва. Цягам апошніх некалькіх гадоў турэцкія генэралы некалькі разоў давалі зразумець, што хочуць усталяваць свой кантроль над Поўначчу Іраку, і пастаянна арганізоўвалі вылазкі на іракцкую тэрыторыю, каб зьнішчаць базы Курдзкай Працоўнае Партыі. Сяньня Аджалан у вязьніцы, а рэшткі ягоных войскаў адышлі ў Іран і на паўднёвы ўсход падкантрольнага ПЗК абшару, а таму Барзані і Талабані стаяць перад патрэбай наноў вызначыць свае стасункі з Турэччынай. Увесь час ствараюцца новыя хаўрусы. Напачатку году ўжо і Талабані паклікаў туркаў на дапамогу, каб абяззброіць 8 000 байцоў Аджалана, што дзеюць у ягонай зоне. Барзані ж у адказ кінуўся шукаць гарантыяў Багдаду, і яго прадстаўнікі малююць будучыню Курдыстану ў фэдэратыўным Іраку і адмаўляюцца ад незалежнасьці.

Рэдка калі Курдыстан меў такую рэальную магчымасьць стаць незалежным, якую мае цяпер, але й зараз у эканамічным пляне ён надта залежыць ад турэцкай гаспадаркі. Па вялікім рахунку, воля Курдыстану сяньня трымаецца толькі на заходніх самалётах і тых ракетных ударах, якія наносяць па Іраку саюзьнікі. Бяз гэтага іракцы лёгка разьбілі б курдзкія войскі, што ня маюць цяжкой тэхнікі.

**Сяргей Радштэйн**

# Дэслабаданізацыя

**У Югаславіі арыштавалі былога кіраўніка дзяржаўнага тэлебачаньня за часоў Мілошавіча, Драгалюба Міланавіча. У яго ёсьць пра што і за што спытаць. Напрыклад, ці ж ня ведаў ён пра маючую адбыцца паветраную атаку NATO на будынак сэрбскага TV, падчас якой загінула 6 чалавек?**

Ён пакінуў сваіх супрацоўнікаў там, хаця яму паведамілі, што будынак будзе заатакаваны. Затое ў красавіку 1999 г. Мілошавіч прыводзіў гэтыя сьмерці як прыклад няўвагі NATO да жыцьця мірных жыхароў. Афіцыйныя асобы абяцаюць, што і сьледзтва па справе самога Мілошавіча пачнецца на днях, пра тое ж казаў і прэм'ер Джынджыч. Яны пазьбягаюць дакладных камэнтароў, абмяжоўваючыся заявамі пра дастатковасьць падставаў для пачатку сьледзтва супраць былога прэзыдэнта і пра тое, што рашэньні па справе Мілошавіча павінны прымаць адпаведныя органы, а ня ўрад. Некаторыя турбуюцца, што істотныя абвінавачваньні супраць Мілошавіча высунуць будзе вельмі няпроста, бо сьлядоў злачынстваў не адшукаць. Джынджыч прызнае, што, вядома, найпрасьцей было б раскрыць фінансавыя парушэньні, але будуць шукаць таксама і доказы ваенных злачынстваў.

Важныя зьмены чакаюцца і на бягучым тыдні — парлямэнт прызначыць новых пракурораў і судзьдзяў, заклаўшы фундамэнт для расьследаваньня злачынстваў былога рэжыму.

**С.Р.**

# *Незалежны актор*

**"Як толькі Эўразьвяз удасканаліць сваю абарону й палітыку бясьпекі ды зробіцца незалежным акторам на міжнароднай сцэне, мы павінныя будзем вызначыць сваю палітыку бясьпекі ў дачыненьні да Расеі, нашага найвялікшага суседа". Гэтыя словы Рудольфа Шарпінга, нямецкага міністра абароны, прымусілі скалануцца амэрыканскіх ваенных начальнікаў.**

Эўропа, і перш за ўсё яе галоўная сіла – Нямеччына – паступова выходзіць з-пад кантролю NATO і з усё большай прыхільнасьцю ставіцца да Расеі, тады як у яе адносінах са Злучанымі Штатамі назіраецца пахаладаньне. Паўночнаатлянтычнаму альянсу з гэтым цяжка прымірыцца, бо ён на працягу паўстагодзьдзя ахоўваў эўрапейскую стабільнасьць і пасьпяхова адстойваў амэрыканскія інтарэсы ў Эўропе.

Але альянс не распадзецца, бо ён занадта важны для ўсіх. Не ў апошнюю ролю і для спакою многіх эўрапейцаў, якія дагэтуль лічаць, што іх кантынэнт стане нестабільным, калі Амэрыка пакіне яго. Але, як можна зразумець са словаў сп.Шарпінга, у трансатлянтычных адносінах нешта надламілася.

Эўразьвяз, які зараз складаюць 15 краінаў, напачатку быў толькі гандлёвым саюзам пад патранажам ЗША. Але зь цягам часу ў яго чальцоў разьвіліся сур'ёзныя ўласныя вайсковыя й стратэгічныя амбіцыі. Відавочна й тое, што пошук Эўропай устойлівага балянсу сілаў у яе сувязях з Вашынгтонам пасьля халоднай вайны адміністрацыя Буша яшчэ толькі мае асэнсаваць.

На мінулым тыдні ў Мюнхэне, зьвяртаючыся да калегаў па альянсе, амэрыканскі міністар абароны Дональд Рамсфэльд ні разу ня ўжыў назвы "Эўразьвяз". "Вынікае, што Эўразьвязу няма ў радары містэра Рамсфэльда", — заўважыў Вольфганг Ішынгэр, адзін з кіраўнікоў нямецкага МЗС. Разам з тым, Эўразьвяз ужо мае структуры, што займаюцца вайсковым плянаваньнем, ды рыхтуе 60-тысячныя сілы хуткага рэагаваньня. Эўра, якое хутка зробіцца валютаю вуліцаў Барсэлёны, Брусэлю ды Бэрліна, заўжды было палітычным праектам, які меў на мэце аб'яднаць Эўропу дзеля процівагі амэрыканскаму дамінаваньню.

Пакуль невядома, які выклік кінуць эўрапейцы супэрдзяржаве па той бок акіяну. Францыя, напрыклад, жадае, каб новае эўрапейскае войска было незалежным ад NATO, альбо хаця б было ўзброенае на дастатковым узроўні, каб быць незалежным. Брытанія называе гэтыя ідэі дэстабілізуючым гальскім трызьненьнем. Але Эўропа дакладна вырашыла стварыць зародак арміі – важкі дадатак да эканамічнай і палітычнай інтэграцыі.

Для Ёшкі Фішара, нямецкага міністра замежных справаў, такая інтэграцыя – "гістарычны працэс", які ня зможа спыніць ніхто, нават Амэрыка. Эўразьвяз жадае, каб да яго ставіліся як да роўнага ў рамках Паўночнаатлянтычнага альянсу. Час, калі Амэрыцы даводзілася мець справу са сьціжмай дробных саюзьнікаў, адыходзіць у нябыт.

**Паводле *The New York Times***

**Працяг са старонкі 1.**

# Рэабілітацыя

**Пра магчымыя зьмены ва ўкраінскім правапісе распавядае намесьнік старшыні згаданай камісіі, прафэсар, загадчык катэдры мовы і стылістыкі Інстытуту журналістыкі пры Кіеўскім унівэрсытэце імя Тараса Шаўчэнкі Аляксандар Панамарыў.**

— Мы хочам спрасьціць мову, бо ў цяперашнім правапісе задужа правілаў з выняткамі. Як вядома, у 1928 г. быў прыняты правапіс, называны "харкаўскім" па месцы, дзе засядала правапісная камісія. Ён быў забаронены ў 1933 г., калі савецкія ўлады ўмацоўвалі курс на русіфікацыю моваў народаў СССР. У тым самым годзе ў Беларусі замест тарашкевіцы была ўведзеная наркомаўка. Заслуга дыяспары ў тым, што яна ў сваіх выданьнях зьберагла нормы правапісу 1928 г. Сёньняшнія зьмены – гэта рэабілітацыя большай часткі таго, што было забаронена ў 1933 г.

Напрыклад, мы хочам спрасьціць напісаньне словаў зь "пів". Мы пішам "пів-Києва" – праз дэфіс, "пів'яблука" – з апострафам і "півгодини" – разам. Чаму б не пісаць разам ва ўсіх выпадках? Так будзе прасьцей.

Іншы прыклад: у нас ёсьць так званае "правіла дзевяці", паводле якога "и" ў словах іншамоўнага паходжаньня пішацца пасьля дзевяці пэўных літар, а ва ўсіх астатніх выпадках пішацца "і". Гэтае правіла тычылася толькі агульных назоўнікаў, а ва ўласных было багата выняткаў. Мы пісалі "Америка", "Африка", "Рига", "Рим", "Париж", але "Мадрід". Пісалі "Палестина", але "Аргентіна", "Сірія". Мы вырашылі пашырыць гэтае правіла на ўласныя і агульныя назоўнікі, каб не пісаць надалей "дизель – мотор", а прозьвішча – "Дізель". Такім чынам, унівэрсалізаваць. Гэта палегчыць вывучэньне мовы.

Часам нашыя апанэнты, нават не мовазнаўцы, а найбольш журналісты з расейскамоўных і расейскіх выданьняў, прыдумляюць тое, чаго няма ў нашых прапазыцыях. Напрыклад, кажуць, што мы быццам літару "ф" хочам выкінуць, што будзе "хвілософія", "Хранція". Гэта, безумоўна, глупства. Нічога такога кардынальнага мы не мяняем, бо ўкраінскі правапіс не патрабуе кардынальных зьменаў.

Яшчэ нашы апанэнты кажуць, што, маўляў, правапіс не зьмяняюць. Але гэта няпраўда. Напрыклад, немцы ўвялі новы правапіс. Малдаване нават зьмянілі графіку — і там таксама крычалі і выступалі.

Некаторыя лямантуюць – колькі часу прайшло, народ прывык да нормаў 1933 году. Па-першае, гэта не аргумэнт – «народ прывык». Немцы дзесяць гадоў адвялі на пераходны пэрыяд, а грэкі зьмянілі правапіс, якому было тры тысячы гадоў, за год.

Мы можам выслухаць розныя думкі, але не абавязаныя іх улічваць. Правапіс – справа мовазнаўцаў. Гэта ня тое пытаньне, якое вырашаецца ўсенародным рэфэрэндумам.

**— Ці ня лічыце Вы, што зьмяненьне, згодна з новым правапісам, формы словаў "кіно", "метро" ва ўскосных склонах можа выклікаць псыхалягічныя складанасьці ў іх успрыманьні? Бо вымаўленьне "кіна" доўгі час было прыкладам абсалютнай непісьменнасьці.**

— Так, гэта зрабілі рысай неасьвечанасьці. Хаця гэта прыроднае памкненьне. Мы ж не зьмяняем па склонах іншамоўных словаў, калі ня маем узору. Напрыклад, "пенсне", "кашне" мы ня можам зьмяняць, бо ва ўкраінскай мове няма сваіх назоўнікаў ніякага роду, якія б сканчаліся на націскны "е", таму "кашне" ў нас ня будзе зьмяняцца. А чаму мы зьмяняем па склонах слова "інжэнер"? Бо яно сканчаецца на "р" як, напрыклад, "явір". Дык чаму б нам не зьмяняць "кіно", калі яно аналягічнае слову "вікно", а "метро" — як слова "відро". Так што гэта прыродная рыса ўкраінскай мовы, якая, пасьля забароны ў 33-м годзе, зрабілася прыкметай "вясковасьці", неадукаванасьці. Але і чэхі, і палякі, і славакі зьмяняюць гэтыя словы ва ўскосных склонах.

Дарэчы, пра "пальто". Некаторыя расейскамоўныя газэты раптам пачалі хваляваць за ўкраінскую мову, нават "Независимая газета", у якой хтосьці напісаў артыкул "Мова без пальта". Дык ён жа невук, бо слова "пальто" зьмяняецца ў нас па склонах з 1946 г. Прывыклі ж да «пальта». Гэтаксама прывыкнуць і да іншых зьменаў.

Акрамя таго, нашыя апанэнты выдумляюць, нібыта мы хочам ка-

# Мора ў “Акварыюме”

**Чарговы праект БМА "More каханьня", прэзэнтацыя якога адбылася 13 лютага ў "Акварыюме", выклікае супярэчлівую рэакцыю, як, зрэшты, любая зьява шоў-бізнэсу. Бясспрэчна адно: ніхто, акрамя Супрановіча з Сахаравым, не дадумаўся выдаць касэту, адмыслова прымеркаваную да Дня сьвятога Валянціна.**

Аргмомант перад канцэртам быў проста непаўторны – мясцовая ахова выдаліла ўсіх з залі ў цесны калідорчык-катушок і пачала “запускаць” па сьпісе, папярэдне складзеным арганізатарамі з БМА. Цікава, што саміх арганізатараў па гэтым самым сьпісе пускаць у клюб ніяк не хацелі: адміністрацыя палічыла, што запрошаных і так болей, чым трэба. Сахараў, якому прапанавалі набыць білет, на хвалі экспрэсіі пагражаў клюбу судовай справай. Зрэшты, нея к разабраліся. Трэба сказаць, што ў астатнім ахова паводзіла сябе вельмі тактоўна. Прынамсі, асабістыя рэчы музыкаў не “пeратрахіваліся” з такой пільнасьцю, як гэта рабілася звычайна ў “Альтэрнатыве”. Дый на канцэрце атмасфэра была зусім іншая – хатняя, можна сказаць. Нягледзячы на значную колькасьць народу, які прыйшоў даведацца, што там Супрановіч з Сахаравым гэткае выдалі, праз увесь вечар не пакідала ўражаньне, што прысутнічаеш на закрытай імпрэзе “для сваіх”.

Канцэрт, паводле старажытнага беларускага звычаю, пачаўся з паўгадзінным спазьненьнем. Першым меўся граць гурт “Безь Білета”, які выправіў на прэзэнтацыю свайго паўнамоцнага прадстаўніка ў асобе скрыпачкі Ксені, якая сумленна адпрацавала за лайдакаватых мужыкоў-безьбілетнікаў: народ у залі слухаў яе зусім ня драйвавую, даволі працяглую сумна-лірычную імправізацыю без пазяханьняў і пярэчаньняў. Наступнымі выйшлі “Цмокі”, на якіх гукарэжысэр атрымаў магчымасьць са смакам і веданьнем справы адстроіць апаратуру. Аднак эксьпэрымэнты з гукам зусім не засмучалі ні музыкаў, што гралі, ня чуючы адно аднаго, ні публіку, якая паднялася на першай песьні і больш ужо не сядала да канца прэзэнтацыі. Потым было “Новае Неба” са старымі добрымі гітамі і новым гітарыстам. (Шчырыя яму спачуваньні: займаць месца, якое раней належала Славу Кораню...) Кася, дарэчы, ізноў адгадавала сабе настальгічна-памятныя доўгія валасы, якія так ёй пасуюць. Запачаткаваную “NN” музычную лінію працягнуў гурт “Exist” – тры самазаглыбленыя, патрабавальныя да сябе, да немагчымасьці стылёвыя рыцары экзыстэнцыі. Рэпэтыцыі ў халодным гаражы ніяк не паўплывалі на іх прафэсійныя і разумовыя вартасьці: музыка па-ранейшаму сакаўная, адметная, поўная падводных камянёў і нечаканых паваротаў.

Паміж выступамі гуртоў у ролі шоўмэна спрабаваў сябе Сяржук Сахараў, чыё гіпнатычнае ўзьдзеяньне на публіку набывала часам проста застрашлівыя памеры. Спачатку ён прымусіў хлопца зь дзяўчынай прадэманстраваць на вачох ва ўсяго клюбу сярэдняй цяжкасьці пацалунак, а пасьля схіліў невядомага героя да выкананьня стрыптызу, не даведзенага, што праўда, да лягічнага завяршэньня, якое сталася б фатальным для “Акварыюму”.

Але сапраўдным каралём вечарыны стаўся “Нэйра Дзюбель”. Кулінковіч, чыя беларуская душа папросту не зьмяшчалася ў расейскамоўнай цялеснай абалонцы, сьпяваў, танчыў, піў з фляжкі, распавядаў показкі... публіка на яго ледзьве не малілася.

Лягічным пераходам да дыскатэкі стаўся кампутарызаваны “Палац”, пракляты артадоксамі ад рок-н-ролу. А моладзь, між іншым, танчыла. Значыць, як казаў яшчэ не пралетарскі паэт Маякоўскі, гэта некаму трэба.

**Халімон, Самахвалавічы**



IREX-PROMEDIA

**У чацьвер у менскім касьцёле сьв.Роха адбылася прэзэнтацыя кнігі Міхася Раманюка «Беларускія народныя крыжы». Кнігу можна набыць у кнігарні «Акадэмкніга». Пра набыцьцё таксама можна даведацца праз тэл. (017) 213-32-32. На фота — Дзяніс Раманюк, Міхасёў сын.**

# Пагаварылі й разышліся

*17 лютага ў БДПУ імя Максіма Танка адбылося пасяджэньне дырэктараў беларускамоўных сярэдніх навучальных установаў Менску*

Шмат часу было аддадзена заўсёднаму ў такіх выпадках афіцыёзу, справаздачна-ілюстрацыйным дакладам. Па старой завядзёнцы, ім нават спрабавалі надаць бадзёры тон. Так, Алесь Лозка, старшыня ТБШ, аптымістычна запэўніў сход, што колькасьць беларускамоўных школаў перастала зьмяншацца і стабілізавалася... на лічбе, якая складае 4% (або пяць школаў ва ўсім Менску) ад агульнай колькасьці сярэдніх навучальных установаў. Выказаў ён таксама надзею на зьмяненьне курсу адміністрацыі ды ўраду і зварот іх да нацыянальных каранёў — маўляў, Стражаў некалі некаму нібыта сказаў, што варта было б ва ўсіх школах выкладаць па-беларуску ня толькі мову й літаратуру, але й гісторыю Беларусі, геаграфію Беларусі, сьпевы, крэсьленьне і працоўнае навучаньне...

Увогуле, склалася ўражаньне, што ўсе прысутныя падзяліліся на два лягеры: прыхільнікаў беларусізацыі “зьверху” і аматараў партызанскіх дзеяньняў, якія заклікалі не чакаць ласкі ад дзяржавы і ратаваць нацыянальную школу ўласнымі намаганьнямі: саматугам шукаць настаўнікаў, дамаўляцца з выхавацелькамі дзіцячых садкоў. Дарэчы, выклікала спрэчкі й пазыцыя дзяржавы. Старшыня Рады дырэктараў беларускіх школаў Менску Алесь Сядзяка лічыць, што дзяржава ня ставіла палак у колы нацыянальнай адукацыі — яна проста адышла ад яе, перастала апякаць. І асноўная віна за катастрафічную сытуацыю ўскладаецца менавіта на дырэктараў школаў, якія не адстаялі беларускай школы, дазволілі адбыцца тым лякальным бацькоўскім “рэфэрэндумам”, пасьля якіх, уласна, і была пахаваная бальшыня беларускіх школаў. Не пасьпела, аднак, дыскусія набраць абароты, захапіць усіх удзельнікаў круглага стала, як арганізатары пачалі настойліва акцэнтаваць увагу на тым, што “час ужо й гарбаты папіць”. Пасьля гэтага неяк сьпехам, скамечана адбылося ганараваньне 13-ці лепшых беларускіх школаў Менску (грамату за нумарам 1 атрымаў Гуманітарны ліцэй), і дырэктары пайшлі на фуршэт, падчас якога меліся яшчэ падпісаць зварот да ўсіх дырэктараў школаў Беларусі.

**С.М.**

## дзе варта быць

### *Кніга Арлова*

26 лютага ў Чырвоным касьцёле адбудзецца апошняя менская прэзэнтацыя кнігі Ўладзімера Арлова “Адкуль наш род”. Пачатак а 19-й.

### *Прадаецца карона*

1 сакавіка ў ДК “Прамень” (Нямiга, 30) на апошнім канцэрце свайго ўсебеларускага туру NRM прапануе прыхільнікам выставу-продаж атрыбутыкі гурту, маек, значкаў і ўсяго-ўсякага іншага. Але галоўным лотам аўкцыёну будзе “Рок-карона” 1997 г. Пачатак а 19-й.

### *“Воплі”*

22 лютага а 19-й у к/з “Менск” можна будзе пачуць “Воплі Відоплясова” з новымі і лепшымі песьнямі. Квіткі – ад 6 да 12 тыс.



зацць “на радіві”, а не “на радіо”. Дык вось, зьмяняцца будуць толькі тыя словы, дзе перад гэтым “о” стаіць зычны – “кіно”, “пальто”, “метро”. А дзе два галосныя — не, напрыклад, “радіо”, “Онтаріо”.

**— Якія водгукі прыходзяць на Ваш варыянт удакладненьня ўкраінскага правапісу?**

— Ёсьць водгукі ад спэцыялістаў, якія ўсё ўхваляюць. Ёсьць водгукі, дзе адно ўхваляюць, іншае – не. Ёсьць такія, дзе нічога не ўхваляюць, але гэта збольшага на ўзроўні *“Не читал, но осуждаю”*. Вось, напрыклад, шмат каго чамусьці абурае тое, што мы хочам пісаць “матеріяльний”. Але вы мне скажыце, хто ва Ўкраіне кажа “матеріальний”? Хто там вымаўляе “а”? Усе кажуць “матер‘яльний”. А на пісьме мы якраз сьлепа капіюем расейскі правапіс. Да 33-га году так не пісалі. Або чаму “месія”, але “месіанство”? Мы прапануем гэтае спалучэньне гукаў скрозь перадаваць праз “ія”.

Мы зачаста бяздумна капіявалі расейскі правапіс. Вось прыклад: прозьвішча былога генэральнага дырэктара дзяржаўнага тэлебачаньня Чэхіі па-чэску гучыць Годач, але расейцы кажуць Ходач, і наша прэса сьледам за імі таксама піша Ходач. Але ж у расейцаў няма “г” фрыкатыўнага, а ва ўкраінцаў ёсьць. Акрамя таго, ягонае імя расейцы пішуць як *Иржи*, бо ня маюць “ї”, а ўкраінцы маюць, і мусяць пісаць *Їржи*. Сказаць “Іржы Ходач” – усё адно, што сказаць “Урій” замест “Юрій”.

**— Якія з 19 прапанаваных пунктаў зьменаў атрымалі найбольш крытычных заўвагаў?**

— Пратэст неспэцыялістаў выклікала зьмена ў пэўных выпадках літары “ф” на “т”. Як я казаў, пайшла пагалоска, што мы ўвогуле зьбіраемся выкінуць літару “ф” з украінскага альфабэту. Мы “ф” не зьбіраемся выкідаць, хоць гэты гук украінская і ўсе славянскія мовы запазычылі.

Украінская і беларуская мовы найдаўжэй супраціўляліся гэтай літары: у расейцаў — “картофель”, у палякаў — “картофля”, а ва ўкраінцаў — “картопля”. Але потым гэты гук прыйшоў ва ўкраінскую мову: “фізика”, “фонетика”, “Франція”. То бок, калі ён ёсьць у мове арыгіналу, дык ён там і застанецца.

А ёсьць гук “ф”, які паходзіць ад грэцкае “тэты” ці міжзубнага “т”. Ён ва ўкраінскай мове ў 90% выпадкаў перадаецца праз “т”: “математика”, “лабіринт”, “Тесей”, “Тетчер”, “патетика” і г.д. Але там, дзе расейцы перадаюць гэты гук праз “ф”, украінцам таксама загадалі ў 1933 г. яго перадаваць праз “ф”. Вось украінцы і пішуць “патетика”, але “пафос”, хоць гэта аднакарэнныя словы. Таму мы хочам унесьці зьмены ў тых нешматлікіх выпадках. Спачатку мы прапануем увесьці падвойнае напісаньне гэтых словаў — “марафон” і “маратон”, “Афіни” і “Атени”. Яшчэ ўкраінскія клясыкі савецкага часу пісалі “этэр” ці “амальтэя”. Напрыклад, Паўло Тычына: “Пливе етер, струмує вітер, джерела б‘ють”. Або Максім Рыльскі:

*“Осінній холодок над спраглою землею*

*шатро гаптоване широко розіп’яв.*

*До ніг його падуть як з рога Амальтеї*

*плоди, налиті вщерть, і довгі пасма трав”.*

**— А што тычыцца памякчэньня “л”?**

— Не, гэтага ня будзе. Як і раней, будзем пісаць “клуб”, “план”, “філологія”. Бо такое памякчэньне не характэрнае для гаворак, на аснове якіх складаўся ўкраінскі правапіс. Тады, у 1928 г., такое памякчэньне “л” было прынятае, але гэта было няслушнае рашэньне, навязанае. Гэта, дарэчы, яшчэ адзін паказчык таго, што мы не шапкуем перад дыяспарай. Мы хочам, каб усе ўкраінцы сьвету мелі адзіны правапіс.

**— А якімі будуць мэханізмы “ўзаконьваньня” гэтых зьменаў?**

— Камісія Кабінэту міністраў будзе прымаць гэтыя зьмены, галасуючы за кожны пункт. Думаю, што нейкія асобныя адзінкавыя выпадкі ня будуць прынятыя.

Пасьля таго як камісія прыме зьмены, правапіс павінен будзе зацьвердзіць прэм’ер-міністар краіны. Пасьля гэтага зьмены набудуць законную сілу і будзе выдадзены новы правапіс.

***www.part.org.ua,***
**“Наша Ніва”**

# НАЙЧАСЬЦЕЙШЫЯ ПАМЫЛКІ Ў НАШАЙ МОВЕ

*выбраныя з рэдакцыйнае пошты “Нашае Нівы”*

## ГУКІ Й ПІСЬМО

| няправільна | трэба |
|---|---|
| трыа, трыо | трыё |
| іон | іён |
| клявіатура | клявіятура |
| віртуёз | віртуоз |
| ідыялёгія, ідэялёгія | ідэалёгія |
| дабразычлівае | добразычлівае |
| *(правіла пабочнага націску: у другой частцы складанага слова націск падае не на першы склад)* | |
| далёкасяжны | далекасяжны |
| палітэхнічны<br>*(пабочны націск)* | політэхнічны |
| праэкт | праект |
| п’едыстал | п’едэстал |
| пращпэкт | праспэкт |
| трафеі | трафэі |
| **на ільготы** | **на льготы** |
| *(прыстаўны гук адпадае пасьля галоснага)* | |
| Іваныч, Макарыч | Іванавіч, Макаравіч |
| *(норму літаратурнага вымаўленьня парушае памоцненае скарачэньне галосных, якое прыводзіць да поўнага іх выпадзеньня)* | |
| тышча | тысяча |
| цюркскі | цюркі |
| *(калі ўтваральная аснова канчаецца на два й больш зычных гукаў, апошні зь якіх **[к]**, а суфікс пачынаецца на **[с]**, апошняга зычнага асновы не чуваць – не перадаем яго й на пісьме)* | |
| адзьдзел | аддзел |
| *(зычны д прыстаўкі перадаем нязьменна)* | |
| арыентыр | арыенцір |
| на фроньце | на фронце |
| таньчыць | танчыць |
| яешня | ячня |
| *(прычым спалучэньне **чн** захоўваем нязьменна й у вымаўленьні)* | |
| канешне | канечне |
| фізыялёгія, фантазыя,<br>дыскусыя, прафэсыяналізм | фізіялёгія, фантазія<br>дыскусія, прафэсіяналізм |
| *(пасьля **с, з** пішацца **і** ў канцоўках словаў на **-зія, -сія**)* | |
| мікрараёну «Усход» | мікрараёну «Ўсход» |
| *(вялікая літара **Ў** пасьля галоснага)* | |
| Афганістан | Аўганістан |
| інтэрв’ю | інтэрвію |
| падыйсьці, адыйсьці, сыйсьці | падысьці, адысьці, сысьці |
| *(прыстаўка на зычны + каранёвае **[і]** – **[і]** у такой пазыцыі чаргуецца з **[ы]**)* | |
| антыісьлямскія выказваньні | антыісламскія выказваньні |
| *(у асвоеных арабізмах, як правіла, **[л]** цьвёрдае)* | |
| Бальканы | Балканы |
| кулуары | кулюары |
| каласальны | калясальны |
| клясіка | клясыка |
| эфір | **этэр** (гр. *aither*) |

## СЛОВАЎТВАРЭНЬНЕ

| няправільна | трэба |
|---|---|
| Юрый | Юры |
| крытэрый, сцэнарый, аграрый | крытэр, сцэнар, аграр<br>(аграрнік) |
| опій | опіюм (лац. ***opium***) |
| раскладушка | раскладанка |
| малыш | маляня(ё), малое, малеча |
| тэлевізіёншчык | тэлевізійнік |
| сумніўныя, сумніў | сумнеўныя, сумнеў |
| зьвеньні, зьвеньнявы | зьвёны, зьвенавы |
| мужнін | мужаў |
| Вольгін | Вольжын, Вользін |
| цёткава | цётчына |
| скарынінскі | скарынаўскі |
| дарэформенны | дарэформавы |
| дысымілятыўны,<br>кансультатыўны | дысыміляцыйны,<br>кансультацыйны |
| інфіцыраваны | інфэкцыяваны |
| мяркуемы, абвінавачваемы | меркаваны, абвінавачваны |
| праводзімая палітыка | праводжаная палітыка |
| аплачваемы водпуск | аплатны водпуск |
| адбыўшыяся выбары | адбытыя выбары |
| раскалываць, падскакваць | расколваць, падскокваць |
| старшынствуе,<br>старшынстваваць | старшынюе,<br>старшыняваць |
| угнаць самалёт,<br>угон самалёта | **сагнаць** самалёт,<br>**згон** самалёта |
| уступіць суперніку | **саступіць**, **пераступіць**<br>суперніку |
| прагназіраваньне | прагназаваньне |
| прэміраваць | прэміяваць |
| фантазаваць, фантазіраваць | фантазіяваць |

## ФОРМЫ СЛОВАЎ

| няправільна | трэба |
|---|---|
| *Назоўнікі мужчынскага роду ў родн. скл. адз. ліку:* | |
| канцэрта | канцэрту |
| конкурса | конкурсу |
| *канцэрту, кірмашу, конкурсу, матчу, мітынгу, саміту, турніру, фэстывалю, фэсту, чэмпіянату (назоўнікі з агульным працэсуальным значэньнем (дзеяньні, працэсы, зьявы, найменьні падзеяў грамадзкага жыцьця) маюць канчатак **-у (-ю)**)* | |
| беларускага народа | беларускага народу |
| *абозу, агітпункту, аддзелу, актыву, аркестру, батальёну, гарнізону, заводу, інстытуту, калгасу, калектыву, камбінату, камітэту, клюбу, полку / палка́, прафсаюзу, райкаму, факультэту, хору, Цэнтравыбаркаму, штабу (назоўнікі із зборным значэньнем, найменьні грамадзкіх арганізацыяў, прадпрыемстваў, установаў, вайсковых падразьдзяленьняў маюць канчатак **-у (-ю)**; канцавы націск падтрымлівае ў паасобных выпадках канчатак **-а (-я)**: поруч полку – палка́)*<br>*Але:* | |
| мільёну | мільёна |
| паўлітру гарэлкі | паўлітра гарэлкі |
| сталу, хлебу,<br>месячніку, зборніку | стала, хлеба,<br>месячніка, зборніка |
| паўгады, паўтара гады,<br>паўтары гады | паўгоду, паўтара году |
| *Бухарэсту, Віцебску, Гамбургу, Гомелю, Заграбу, Лёндану, Мадрыду, Менску, Нью-Ёрку, Нэапалю, Парыжу, Пецярбургу, Рыму, Смаленску, Стакгольму, але Бэрліна, Любліна, Століна, Кіева, Львова, Магіле(ё)ва (канчатак **-а** толькі ў назовах местаў на **-оў, -еў, -ін, -ын**)*<br>*Эгіпту, Судану, Крыму, Каўказу, Пакістану, Ізраілю (назовы краін, рэгіёнаў, мясцовасьцяў маюць канчатак **-у (-ю)**)* | |
| Зьміцер, але Зьмітра, Зьмітру, Зьмітрам (Зьмітром) (беглы галосны) | |
| Полацк, Слуцк | Полацак, Слуцак |
| *(але ўва ўскосных склонах: з Полацку, Слуцку)* | |
| мужчыне, ваяводзе<br>*(давальны і месны склоны)* | мужчыну, ваяводу |
| зь ім – старшынём, судзьдзём;<br>зь ёю – старшынёй (ёю), судзьдзёй (ёю) | |
| пара казкаў, пасадкаў,<br>старонкаў | казак, пасадак,<br>старонак |
| Хаўеру Саляне,<br>Скарыне, пры Клінтане | Саляну, Скарыну,<br>пры Клінтану |
| *(прозьвішчы на **-а (-я)** скланяюцца на ўзор назоўнікаў супольнага роду – г.зн. у давальным-месным склонах маюць канчатак **-у (-ю)**, у творным **-ам (-ем)** пры абазначэньні асобы мужчынскага полу)* | |
| праграма Антаніны Хатэнка | праграма Антаніны Хатэнкі |
| яна (вясковая<br>нараджальнасьць) болей<br>за гарадзкую | яна **большая** за гарадзкую |
| *(вышэйшая ступень параўнаньня прыметніка – не прыслоўя: **яна** якая?)* | |
| у бліжэйшай праграме | у **най**бліжэйшай праграме |
| *(найвышэйшая ступень параўнаньня)* | |
| мацнейшая<br>каманда краіны | **най**мацнейшая каманда<br>краіны |
| *NB: буйнейшы = большы, найбуйнейшы = сама вялікі, найбольшы; другі выступ быў цікавейшы за першы, а трэці быў **най**цікавейшы* | |
| дзякуючы<br>Караткевічаву твору | дзякуючы Караткевіч**аваму**<br>твору, не было<br>Караткевіч**авага** твору |
| распавядзе́це,<br>спадзяе́цеся | распаведзяце́(ё),<br>спадзеяце́(ё)ся |
| *(у форме другой асобы множнага ліку націск у такіх дзеясловах падае на апошні галосны канчатка: ідзяце(ё), маўчыце(ё), ясьце(ё), дасьце(ё), ведзяце(ё), п’яце(ё), стрыжаце(ё); арыенцірам можа быць форма 2-й асобы адз. ліку: калі ў ёй націск падае на апошні галосны канчатка, на апошнім галосным будзе ён і ў форме множнага ліку. Напр.: бярэш — бераце́(ё), глядзіш — глядзіце́(ё))* | |

## БУДОВА ФРАЗЫ

| няправільна | трэба |
|---|---|
| па аўторках і чацьвяргах | у аўторак і чацьвер,<br>у аўторкі й чацьвяргі,<br>аўторкамі й чацьвяргамі |
| па запрашэньню | па запрашэньні<br>(**на** запрашэньне) |
| па зьнешняму выгляду | **з** выгляду |
| па сакрэту | **пад** сакрэтам |
| па свайму густу | **на** свой густ |
| па якой прычыне | **зь** якой прычыны |
| відаць па ўсяму | відаць **з** усяго (па ўсім) |
| створаны па ўзору | створаны **на** ўзор |
| кошт, па якому | кошт, па якім |
| *(**па** + словаформа меснага склону)* | |
| згодна канонаў | згодна **з** канонамі |
| чытаць пра сябе | чытаць самому сабе<br>(самой сабе) |
| паехаць за грашыма,<br>прыслаць за ёй | **па** грошы, **па** яе |
| водпуск па догляду за дзіцём | водпуск для догляду дзіцяці |
| паляваньне за Ганчаром | паляваньне **на** Ганчара |
| ня бачу выйсьце,<br>ня п’ю гарэлку,<br>ня спыняць практыку | ня бачу выйсьця<br>ня п’ю гарэлкі,<br>не спыняць практыкі |
| *(адмоўе **не** вымагае, як правіла, роднага склону кіраванага дзеясловам назоўніка)* | |
| у дваццаці кілямэтрах<br>ад вёскі | **за** дваццаць кілямэтраў<br>ад вёскі |
| вагою ў трыццаць кіляў | вагою (на) трыццаць кіляў |
| атрад у сямнаццаць чалавек | атрад (аддзел) **зь** сямнаццаці<br>чалавек,<br>аддзел – сямнаццаць чалавек |
| больш паловы<br>грамадзянаў краіны | больш **за** палову<br>(**чым**(**ся**), **як** палова) |
| людзі, маладзей за 30 год | людзі, **маладзейшыя**<br>**за** 30 год (гадоў) |
| каб аблічча не паходзіла<br>на ягонае | каб аблічча не было<br>**падобнае да** ягонага |

## СЛОВЫ

| няправільна | трэба |
|---|---|
| выставачны комплекс<br>*(ад выстава)* | выста́ўны комплекс |
| гарачыя кропкі плянэты | гарачыя пункты плянэты |
| глава (у кнізе) | разьдзел |
| зьнешні | вонкавы, знадворны,<br>навакольны, замежны |
| зьнешнегандлёвы,<br>зьнешнепалітычны | замежнагандлёвы,<br>замежнапалітычны |
| іск | пазоў, -ову; |
| *пазоўны ліст (заява) – исковое заявление; пазоўнік (-ніца) (слова **зыск**, дарма што памылкова ўжываецца, мае сваё “аўтэнтычнае” значэньне – ‘прыбытак, карысьць, выгада’)* | |
| малейшы | найменшы |
| машыннае масла | аліва |
| накірунак | кірунак (с.-в.ням. *kêrunge*),<br>прасьцінак, напрамак |
| падавіць паўстаньне | здушыць (задушыць)<br>паўстаньне |
| падаткаплацельшчык | падаткаплатнік<br>(платнік падаткаў) |
| прасачылася інфармацыя | *лепей:* пратачылася<br>інфармацыя (праточвацца) |
| прывіць | прышчапіць |
| раздмуваць | разьдзімаць |
| розьнічныя кошты | розьнічныя<br>(раздробныя) **цэны** |
| рускамоўны | **расе(і)йск**амоўны |
| сываратка | сыроватка |
| урач | доктар(ка), лекар(ка) |
| наогул | наагул, увогуле |
| Савет Эўропы,<br>Савет Бясьпекі | Рада Эўропы,<br>Рада Бясьпекі |
| *Але: Вярхоўны Савет 13-га скліканьня (орган савецкае ўлады, “савет” як заканадаўчы орган)* | |

**Папраўляючы, а дзе-нідзе проста выбіраючы з варыянтаў і рэкамэндуючы, мы кіруемся традыцыйнымі культурамоўнымі падыходамі й прытрымліваемся сучасных нормаў новаклясычнага беларускага правапісу.**

ВОДГУКІ

# Клятва Гіпакрата і новы Крымінальны кодэкс

Новы Крымінальны кодэкс прадугледжвае больш суровыя, чым папярэдні, пакараньні за прафэсійныя злачынствы мэдыкаў. Так, "неаказаньне дапамогі хвораму", неасьцярожнасьць, у выніку якой пацыент атрымаў пашкоджаньне або "інфэкцыяваньне ВІЧ-інфэкцыяй", "неналежнае выкананьне прафэсійных абавязкаў" можа "пацягнуць" на 2, 3 і нават 5 гадоў турэмнага зьняволеньня.

У друку ўжо зьявіліся першыя водгукі на згаданы артыкул Кодэксу. Прэтэнзіі ёсьць як у саміх мэдыкаў, так і ў пацыентаў, як абгрунтаваныя, так і неабгрунтаваныя. Усе іх скаргі можна падзяліць на мэдыцынскія і сацыяльныя. Першыя для свайго разгляду патрабуюць спэцыяльных мэдыцынскіх ведаў, другія - элемэнтарнага жыцьцёвага досьведу. Так, напрыклад, у ЗША лекар зарабляе за месяц каля 10 000 даляраў, а ў Беларусі - каля 30—40 даляраў. Ад нішчымніцы ратуюць соткі, лецішчы, "левыя" даходы. Некаторыя думаюць, што розьніцу паміж заробкам лекара і сапраўдным коштам ягонай працы кампэнсуюць пацыенты. Але гэта не зусім так. Што жабрак жабраку можа даць?

Чаму ж, у такім разе, лекары не пратэстуюць, не ствараюць незалежных прафсаюзаў, ня ладзяць пікетаў? Па-першае, гэта ад прыроды не ўласьціва інтэлігенцыі, а па-другое, больш "заможныя" лекары — хірургічнага профілю, адміністратары — не падтрымаюць іх. Многім мэдыкам "бясплатная" мэдыцына выгадная: карыстаючыся ўсім гатовым, яны тут і дзяржаўную зарплату атрымліваюць, і ад пацыентаў нядрэнны навар маюць, а хто-ніхто нават умудраецца наладзіць штосьці кшталту прыватнай практыкі. І ня трэба плаціць ні падаткаў, ні збораў, і ніякая інспэкцыя не падкапаецца.

Да таго ж, наш беларускі лекар часта пры ўсім жаданьні ня можа лячыць хворых на ўзроўні цяперашніх дасягненьняў мэдыцыны. На закупку дарагіх і эфэктыўных мэдыкамэнтаў проста няма сродкаў, ня кажучы ўжо аб мэдыцынскай апаратуры. Многія дарагія лекі ў дзяржаўных аптэках і мэдыцынскіх лячэбных установах адсутнічаюць. Іх часам можна купіць у камэрцыйных аптэках, і каштуюць яны, напрыклад, на месячны курс лячэньня — да некалькіх сотняў даляраў. Для амэрыканца грошы невялікія, там іх можна зарабіць за колькі дзён — а нашаму бюджэтніку ці пэнсіянэру, каб купіць такія лекі, трэба аддаць заробак ці пэнсію за некалькі месяцаў. Лекару даводзіцца выкручвацца, ілгаць хвораму, "лячыць" абы-чым, хаця карысьці ад гэтага мала ці зусім няма, а часам адна шкода, бо хвароба прагрэсуе. Звычайна лекары сумленна тлумачаць сытуацыю сваім пацыентам, і тады хворыя пішуць ва ўсе мэдыцынскія і немэдыцынскія інстанцыі, грукаюць ва ўсе дзьверы. Часьцей за ўсё безвынікова, бо "на няма і суду няма". А вось "за неналежнае выкананьне прафэсійных абавязкаў", "за неаказаньне дапамогі хвораму" ў новым Крымінальным кодэксе ёсьць адпаведнае пакараньне. А якую дапамогу можа аказаць, напрыклад, лекар-радыёляг п'яному, якога ў транспарце схапіў інсульт? Хворыя і іх родзічы не заўсёды разумеюць, што далёка ня кожны доктар можа дапамагчы хвораму, і, замест таго, каб выклікаць "хуткую", скардзяцца на доктара, што выпадкова апынуўся побач і не аказаў "належнай дапамогі". Сацыяльныя скаргі хворых агульнавядомыя: чэргі ў паліклініках, адмова ў шпіталізацыі, дрэннае харчаваньне, недастатковая ўвага альбо грубасьць мэдпэрсаналу.

Скаргі на дактароў часьцяком выкліканыя некампэтэнтнасьцю "пакрыўджаных". Так, часьцей за ўсё сваякі памерлага скардзяцца на памылкова пастаўлены дыягназ і няправільнае лячэньне, праз якое наступіла сьмерць. Праблема памылак дыягностыкі — вельмі складаная. Больш за ўсё яна зьвязаная зь недасканаласьцю, недакладнасьцю мэдыцыны як навукі. Прычыны памылак бываюць розныя: недастатковая кваліфікацыя доктара, цяжкі стан хворага і адсюль немагчымасьць дэталёва яго абсьледаваць, адсутнасьць адпаведных умоваў, пераацэнка кансультантаў, недаацэнка ці пераацэнка спэцыяльных дасьледаваньняў, падабенства прыкметаў многіх захворваньняў і г.д. Цікава, што працэнт дыягнастычных памылак у высокакваліфікаваных лекараў бывае нават вышэйшым, чым у менш кваліфікаваных. Гэта тлумачыцца тым, што ў першым выпадку кантынгент хворых бывае цяжэйшы, больш складаны для дыягностыкі, чым у другім. Усе выпадкі разыходжаньня клінічнага (прыжыцьцёвага) дыягназу з патолягаанатамічным (пасьля сьмерці) разглядаюцца на клініка-анатамічных канфэрэнцыях. Лекары таксама на сваіх памылках вучацца.

У мэдыцыне ёсьць такія правілы, невыкананьне якіх - сьмерць для хворага, а то і для здаровага чалавека, напрыклад, пераліваньне крыві без папярэдняе праверкі сумяшчальнасьці яе з крывёй пацыента, выдаленьне адной ныркі без высьвятленьня наяўнасьці другой і яе функцыянальных магчымасьцяў і г.д. За такія "памылкі" лекары нясуць юрыдычную адказнасьць.

У згаданым вышэй артыкуле Кодэксу чамусьці нічога не сказана пра адказнасьць дзяржаўных кіраўнікоў і адміністрацыі мэдычнай вэртыкалі за здароўе людзей у Рэспубліцы Беларусі, за выміраньне беларускай нацыі. Гэтак, пры Савецкім Саюзе бальшавіцкая ўлада з мэтай аднаўленьня колькасьці насельніцтва, замяшчэньня загубленых ёй жа людзей, карала патэнцыйных бацькоў, часта галадаючых ці жывучых у беднасьці. Карала за "нежаданьне" мець дзеці, уводзячы вар'яцкія законы супраць абортаў і "падатак на бязьдзетнасьць". А многія хацелі б тады і цяпер хочуць мець, ды не адно дзіцё, а чатыры-шэсьць, многа, ды ня могуць: самім трудна пражыць. Дык колькі ж будзе цягнуцца гэтая злачынная бальшавіцкая ўлада?! Чаму за здароўе нацыі нясуць адказнасьць толькі лекары ды мэдсёстры?

Пасьля заканчэньня мэдыцынскага інстытуту лекары даюць Клятву Гіпакрата. І цяпер, нягледзячы на сваё беднае існаваньне, яны, у большасьці сваёй, сьвята яе выконваюць, але многія, каб не парушаць гэтай клятвы, сыходзяць з мэдыцыны.

Пры канцы зазначу, што праблема, якую я тут закрануў, мне добра вядомая, бо я ўжо 47 год працую патолягаанатамам, 10 год працаваў галоўным пазаштатным Менскім гарадзкім патолягаанатамам і столькі ж — Галоўным пазаштатным патолягаанатамам МАЗ БССР, загадчыкам катэдры паталягічнай анатоміі Менскага мэдыцынскага інстытуту, старшынём Навуковага таварыства патолягаанатамаў Беларусі. Мне добра вядомыя памылкі лекараў, сьлёзы сваякоў, юрыдычныя "справы ўрачоў", як усё ёсьць у жыцьці.

**І.Мірончык, Менск**

## Энцыкляпэдыя беларускага замежжа

Фота Анатоля Клешчука



Янка Жучка (Бэльгія) ў Беларусі (Грозаў) падчас усталяваньня памятнага крыжа ў гонар змагароў Слуцкага збройнага чыну



Арсень Монід (Канада) едзе на сустрэчу з Натальляй Арсеньневай (1994 г.)



ЗАПРАШАЕМ НА ПУБЛІЧНЫЯ ЛЕКЦЫІ І ПРЭЗЭНТАЦЫІ

| 20 лютага | 27 лютага |
| --- | --- |
| Прэзэнтацыя кнігі гарадзенскіх паэтаў з удзелам аўтараў | ЮРАСЬ БАРЫСЕВІЧ «Пэрформансы Алеся Пушкіна» |

**Прэзэнтацыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (актавая заля) па адрасе: вул.Харужай, 16**

**Пачатак а 18.30.**

# Ніна Мацяш

*вершы для песень*

## Баговачка

За сьцяной за накалелай, прамарожанай
Ходзіць вечар па прыталаму лядку,
А ў мяне на далані кароўка божая
Апынулася богведама адкуль.

Баговачка, баговачка,
Па ўсіх прыкметах
Візыт неспадзяваны твой – пусты.
Баговачка, баговачка,
Якое лета
У сьнегавой аблозе можаш мне навесьціць ты?!.

Не зацёхкае салоўка, не заценькае
Майму сэрцу з адшумелага лісьця,
Хоць і села ты, істотачка рабенькая,
Крапкай барвы ды на лінію жыцьця.

Баговачка, баговачка,
Па ўсіх прыкметах
Візыт неспадзяваны твой – пусты.
Баговачка, баговачка,
Якое лета
У сьнегавой аблозе можаш мне навесьціць ты?!.

## Забялела ночка

Занавешана няшчытна
Цьмянае вакно:
Ані месяца, ні зорак
Болей не відно, –

Забялела ночка, забялела,
Хутка дзень.
Забалела сэрца, забалела
Неўспадзеў.

За ракой разлукі нашай
Можа й ты ня сьпіш,
У начны праём аконны
Стомлена глядзіш, –

Забялела ночка, забялела,
Хутка дзень.
Забалела сэрца, забалела
Неўспадзеў.

Вецер, ветрыку сьвітальны,
Боль закалышы,
Абагрэй сваім дыханьнем
Родных дзьве душы, –

Забялела ночка, забялела,
Хутка дзень.
Забалела сэрца, забалела
Неўспадзеў.

## Калядная ноч

Над ялінкай месіка сьвятло,
Ноч, нібы анёльскае крыло,
Так пяшчотна абняла зямлю,
Нібы мовіць ёй сваё "люблю".
Усяленскай радасьці Анёл
Далучае да нябёсаў дол,
Пераўіў хмурыны Срэбны Пас,
Кветам зорным бласлаўляе нас.

А сьняжынкі завіруюць
І дарэшты зачаруюць,
Завіруюць, зачаруюць, заваражаць,
І паверым безаглядна
Дзіўнай ночкаю каляднай
У шчасьлівы цуд, што з намі збыцца можа!

Колькі іх было, такіх начэй!
Колькі будзе іх у нас яшчэ?!
Дай руку мне, прытулі плячо,
Хай ня меркне сьвята ў вачох!
Усяленскай радасьці Анёл
Далучае да нябёсаў дол,
Пераўіў хмурыны Срэбны Пас,
Кветам зорным бласлаўляе нас!

А сьняжынкі завіруюць,
І дарэшты зачаруюць,
Завіруюць, зачаруюць, заваражаць,
І паверым безаглядна
Дзіўнай ночкаю каляднай
У шчасьлівы цуд, што з намі збыцца можа!
....
У шчасьлівы цуд, што з кожным збыцца можа!



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# варштаты

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА**

*ЦЯГНІК АДЫХОДЗІЎ*

Цягнік адыходзіў, на жаль,
Напрыканцы чэрвеня быў фэстываль,
Ліпень хаваў у сабе пагрозу,
У жніўні на вачох былі сьлёзы,
Я быў паланёны,
Вывучаў пляны новых мікрараёнаў,
Ляцеў на спатканьні,
Песьціў марныя спадзяваньні,
Хадзіў на работу,
Функцыянаваў у рэжыме аўтапілёту,
Рабіў фізычныя практыкаваньні,
Удзельнічаў у хваляваньнях,
Харчаваўся бутэрбродамі,
Прарываўся гародамі
Туды, дзе такіх, як я, плойма, –
У твае абдоймы.

**Ярына БЕРАСЬЦЕЙСКАЯ**

* * *

Зладзейка. Я проста хацела душу тваю скрасьці,
Бо шчасьце, што цягнецца больш за імгненьне – няшчасьце.

Бо лёс вырашае зьяднаць нас адзіным расстаньнем.
Ня будзе нічога, мяне на сьвітанку ня стане.

Я золак ружовы у кубачку з кавай забіла...
Навошта табе безь мяне ён спатрэбіцца, мілы?

**Мікола ВЯРШЫНІН**

* * *

Не жартуе век з намі,
І падзей мінае шмат.
Не сачыў я за гадамі,
А гляджу – ужо шэсьцьдзесят.

Захаваў свае абрысы,
Не схіляю галавы.
Не зусім яшчэ я лысы,
Не зусім яшчэ сівы.

Не сумую без прычыны,
Разганю сваю нуду.
Не абыдуць і жанчыны,
Сам я іх не абыду.

Працаваць гатоў з ахвотай,
Бо магу яшчэ трываць,
А як выганяць з работы,
Буду лепш адпачываць.

І ніякага начальства,
І навошта мне прыгон!
Не скачуся да гультайства,
Колькі год яшчэ і дзён!
Захачу – на дачу еду,
захачу – у лес па грыбы,
І забудуся пра беды,
Працягнуць жыцьцё абы.

Лес нам не дзеля пацехі:
Праглядайся пакрысе.
Будуць ягады, арэхі –
Пазьбіраю я іх усе.

І куплю нарэшце вуду,
Накапаю чарвякоў.
І штодзень я
зь юшкай буду –
Самы лепшы з рыбакоў.

Нехта іншы быў бы ў скрусе:
Мінаваў жыцьця парад.
Толькі я ўсё ж не журуся:
Жыць ня сумна ў шэсьцьдзесят.

**Вольга КАЛЕНІК**

* * *

Ты застанешся тут.
Імпрэзу чыніць памяць.
Дамоклавым мячом
Трымаецца заслона.
Паранаічны ўзьлёт
У люстры пад нагамі.
Забыты абсалют –
Пярсьцёнак Салямона.

Бясконцасьць вышыні
Замкнулася у крузе,
Бо выпрастаўся час,
Стралой працяўшы цела,
І недабіты дзень
Заўчасна апрануўся
Ў твой колер – да крыві
Зацалаваны белы.

**Настасься КУДАСАВА**

* * *

Якім бы шчыльным атачэньнем
Ні наступала далячынь –
Ёсьць толькі прага вызваленьня
На акрываўленым мячы.

Ёсьць толькі мара пра сьвітаньне,
Якая ў нас заўжды жыла...
Таму – ня мецьмем шкадаваньня
Да дзьвюхгаловага арла,
Што ненажэрнымі вачыма
Глядзіць на захад і на ўсход.
Ён – нашай слабасьці прычына,
Ён – наша згуба і прыгнёт.

Таму мы мусім жыць! Мы ўзновім
Сваю мінуласьць і працяг:
Непераможную Пагоню
І бел-чырвона-белы сьцяг!

**Вэрнэр ЛІНДЭМАНН**

*ХЛОПЧЫК І АБЛОКІ*

Ляжаў неяк адзін хлопчык і назіраў за аблокамі. Да яго прыйшоў ягоны сябра дый кажа: «Пайшлі са мной гуляць у мяч!». Хлопчык нічога не адказаў.

Прыйшоў другі сябра й кліча: «Хадзем разам купацца!». Хлопчык не зварухнуўся.

Прыйшоў трэці і прапанаваў: «Гайда з намі па дрэвах лазіць!». Наш хлопчык застаўся нерухомы.

Ня вытрымалі сябры дый мовяць: «Як можна быць такім лайдаком! Як можна ўвесь час ляжаць нічога ня робячы! Як можна быць такім нерухомым!»

А хлопчык ім адказвае: «Толькі калі я нерухомы, я магу дакладна бачыць, як рухаюцца аблокі».

**Пераклад зь нямецкай Вітаўта Пісарыка**

**Алесь МЯСТЭЧКА**

*КАХАНЬНЯ ЗОРКА*

У асеньняй імгле,
Скрозь дождж, вятры, туманы,
Здаецца мне, я бачу зор мігценьне.
Хоць загарэліся яны не для мяне,
А ўсе ж і сэрцу, і душы прыемна.
Каханьня зорка,
Лепшая на сьвеце,
У час начны спусьцілася зь нябёс.
І сьветам серабрыстым і таемным
Агеньчык запаліла ў душы,
На дне.
Дыханьне я тваё лаўлю,
Чакаю
Сустрэчы нашай.
Міг...
І ўсё.
Табе пра неісьотнае шапчу,
А сэрца стогне,
Бо я не скажу
Таго
Галоўнага...
Але –
Чакаю...
Каханьня зорка,
Дапаможаш мне?

**А.НАРКЕВІЧ**

...Ты абудзішся. Ізноў
Залунае сьцяг твой вольны.
Хай пакуль што ён крамольны,
Ды ня вечны ж час аслоў,
Што вушамі сонца засьцяць,
І сьмяюцца,
І клянуцца,
То цалуюцца, то б'юцца –
Ласка й здрада ўваднчасьсе.

Не памерла. Толькі б сон
Не разволіў тых, хто дбае,
Тых, хто ведае – жывая!
Тых, хто чуе праўды звон.

**Юры ЧАРНЯКЕВІЧ**

* * *

*Вальжыне Чарнавокай*

Зяленіва шкла
Нам нагадае
Дзіцячую таямніцу
І здасца ці сном,
Ці адбіткам у люстры.
Аскепак нябёс
Ты прыкладзеш,
Як цукерку,
Да вуснаў,
Каб адазвалася
Ў сэрцы
Хмара,
А пасьля
Пальцы Алісы
Параніш тым шкельцам.

# На Сьвіры

**Высокая шурпатая гравейка жаўтлявым пасачкам цягнецца паўз увесь бераг возера Сьвір. Ягоны блакітны шкляністы бляск раз-пораз хаваецца ад вачэй за рэдкім хмызьняком ды рознакаляровымі шэрагамі рыбаковых самаходаў, але хутка ізноў кідаецца ў вочы няскоранай вольнасьцю і прасторай. Доўгае ды вузкае возера, падобнае да разважлівай вялікай ракі, што на момант спыніла сваю вірлівую плынь, цягнецца кілямэтраў на чатырнаццаць з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, нібыта велічэзная страла, пушчаная аднекуль з-пад Вялейкі на далёкую Рыгу. Дзесьці за сьпіною застаецца нетаропкае шчытнае Вішнева, дзесьці наперадзе хавае ў лістоце высокія дахі мястэчка Сьвір.**

## СЬВІР

Сёньняшні гарадзкі пасёлак сустракае нізенькай шэрай Прыбярэжнай вуліцай, аскепачкам старое Сьвіры, чые цесныя двары губляюцца ў сухіх азёрных чаратох. Чорныя смоленыя дашчанікі, навязаныя ланцугамі да пахіленых дрэваў ды іржавых сталёвых слупочкаў, трапляюцца на вочы бадай ля кожнае хаты. Пашчапаны асфальт колькі разоў спрабуе завесьці падарожніка ў тваністую вільгаць збалацелых берагоў, кожнага разу на апошніх мэтрах беручы вышэй, да хвалістых узгоркаў, ды нарэшце кіруе ўлева, караскаецца па схіле, каб падзяліць паселішча напалам.

Калі бачыш нягеглыя хаціны калгаснага выгляду, раскіданыя безь ніякае сыстэмы па навакольных схілах; нежывыя, хаця й жылыя, блёкавыя двухпавярховікі; недагледжаныя, бы кінутыя двары з горамі сьмецьця – ніяк не дасі веры, што людзі не пакідаюць гэтае мясьціны вось ужо сем стагодзьдзяў. Неверагоднаю казкай здаюцца згадкі пра тое, што славутыя князі Сьвірскія (тыя самыя, што падпісвалі мірную дамову Сьвідрыгайлы з крыжакамі ды дамову Вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча зь Ягайлам у XV ст., займалі пасады надворнага маршалка літоўскага, дзяржаўцы крэўскага, каноніка ды намесьніка віленскіх, падстаросты берасьцейскага й іншыя ў XVI-м) збудавалі тут калісьці замак, палац і драўляны касьцёл...



Зямля не захавала нават рэштак тых спарудаў, людзкая памяць – нават успаміну аб іх. І здаецца, што толькі адна хацінка, амаль урослая ў зямлю, замёрлая ля самай дарогі пад абдзёртым нумарам 61, памятае яшчэ штосьці. Ейныя маленькія вокны, дзьверы проста на вуліцу, старэнькі бляшаны дах, спарахнелыя драўляныя адлівы, пакарабачаная, шурпатая, з рудымі плямамі шалёўка ды прыгожы другі паверх упоперак хаты мансардаю, хаваюць у сабе нейкую таямнічую даўніну...

...А сьвірскія храмы – шэранькая сьціплая цэркаўка на Прыбярэжнай вуліцы й файны прасторны Мікалаеўскі касьцёл, збудаваныя пры канцы XIX ст., — нібы чужынцы-госьці. Яны жывяць прастору, надаюць ніякаму местачковаму краявіду крыху сьвяточнасьці... Але сьвяточнасьць тая нейкая сумная, нават трагічная. Сялібы чамусьці ня горнуцца да сьвятарных муроў, а проста запаўняюць прастору навокал, жывучы сваім траскотным жыцьцём. І толькі марудныя азёрныя хвалі ды пажоўклыя танклявыя клёны лучацца да бязмоўнага таямнічага служэньня старых бажніцаў. Дарэчы, кажуць, што сама Сьвір была заснаваная князем Даўмонтам на месцы Перуновага капішча...

Блакітныя елкі ўздоўж казённае аблупленай сьцяны «ўнівэрмагу» туляцца адна да адной нежывым раўнюткім шэрагам, нібы хваляцца: «І мы ўжо гарадзкі пасёлак, а не абы-што...» Але пыха гэтая сьмешная. А скарычнявелыя яблыні зь яркімі чырвонымі кропкамі яблыкаў у ранішняй расе моўчкі пярэчаць: «Мястэчка мы...» І іхная сьціпласьць такая родная ды цёплая.

Дзьве вялікія гары навісаюць над мястэчкам, быццам глядзяцца церазь яго ў возера. За іх адразу чапляецца вока падарожніка. Адну, няроўную й паважную, з пукатым хвалістым верхам з дваром ды сенажацьцю пасярэдзіне й адхоністым падножжам, чамусьці адразу хочацца назваць Старасьвірскай. Гэткая яна спакойная ды годная. Другую ж, абгароджаную зьнізу чырвона-зялёнымі шчытамі зь нежывымі патасными словамі й зоркамі, – Савецкай. Але ж вось неспадзеўка! Гэтая відавочна рукатворная, стромкая, вышэйшая за першую горка зь вяршыняю, бы падкова, ды брацкаю магілай з расколатым помнікам ад апошняе вайны зьяўляецца старадаўнім гарадзішчам, з рэштамі дзядзінцу й высачэзнага валу з заходняга боку...

З гарадзішча відно возера. Ягоныя няроўныя берагі схаваныя шырачэзнымі чаратовымі пасамі. Белыя кропкі чаек чыраць люстраную паверхню вады з адбіткам нябёснага блакіту. Нерухомая лодка із ссутуленай паставай рыбака ды ягоным дрыготкім няпэўным адлюстраваньнем малююць удалечыні рэзкі чорны крыжык на ледзьве кранутай хвалямі вадзяной стужцы. За возерам зубчастымі паўвыспачкамі наступае на зеляніну палеткаў чырвона-чорная здань лесу. А над ім двума таненькімі камінкамі навісаюць вежкі засьвірскага касьцёлу...

## ЗАСЬВІР

Нібыта сарамлівая ў сваёй пекнаце пэрліна, схавалася ад людзкіх вачэй за шырокімі дрэвамі гэтае дзівоснае паселішча. Ягоныя няправільныя вулкі свабодна й сьмела пачуваюцца пад надзейнай абаронай векавечнага волату. А ён, той волат, у абліччы старога касьцёлу знайшоў прытулак на ўзвышшы сярод лесу, узьняўшы простыя строгія вежы над кранутымі восеньню вершалінамі.

Ці то вобразам непазьбежнае сьмерці, ці то, наадварот, вечнага жыцьця, высяцца гэтыя муры, напалову дагледжаныя, выбеленыя ды роўныя, а напалову палеглыя ў ружовых руінах.

Па рэштках сьценаў з круглістымі вокнамі ды асновамі колішніх скляпеньняў, па разьбітых падмурках ці то проста па земляных вальцох вымалёўваецца колішні ўтульны цьвінтар, прыціснуты да цёплае касьцельнае сьцяны падковаю жылых кляштарных пабудоваў. Аскепкамі старое сядзібы пазіраюць з-пад ног здрабнелыя сунічныя далонькі ды горнецца гонкім гольлем да зямлі, ствараючы жывы жаўцісты шацёр, напаўзьдзічэлая сьціплая яблынька.

Ацалелы храм праз крывавае лісьцё агромністых сьветлых клёнаў адразу кідаецца ў вочы, уражвае, пужае, сьцішвае сваёй строгасьцю ды мерай. Уваход схаваны шчыльным паўкруглым крытым барбаканам з пагрозьлівымі вузкімі байніцамі. Вежавыя сьцены ашчадна прарэзаныя невялікімі круглымі вакенцамі ўвачавідкі абарончага прызначэньня. Глыбока схаваныя ў нішах невысокія бакавыя дзьверы, сьпічасты, пад бляхаю, дах, сьціплыя крыжовыя вітражы на паўночных вокнах...

Зьвілісты, падобны да замкавага роў абгінае з поўдня бажніцу, павяртае за масіўную белую апсыду, бярэ бліжэй да лесу... Але далей ты ўжо ня йдзеш. Зьніякавела спыняешся, задуменна глядзіш і, нібыта міжволі, у самотным зьдзіўленьні рушыш туды, дзе пад аховаю шапатлівых елак пяцьцю кароткімі ланцужкамі палеглі на зямлі старыя счарнелыя цагляныя глыбы. Кожная зь іх – распластаны ў траве невялікі крыж. Шэсьцьдзесят пяць заімшэлых рукатворных камянёў хаваюць пад сабой журботныя рэшткі ўдзельнікаў і ахвяраў пазамінулае сусьветнае вайны. Нямецкія словы на помнічках, нямецкія імёны на камянях, нямецкі клопат аб загінулых на чужой зямлі...

Тая вайна ўпершыню балюча кранула і спакой старога кармэліцкага кляштару й касьцёлу, збудаваных яшчэ на пачатку XVIII ст. Упершыню чужынскім позіркам адкрылася тутэйшая дзівосная таямніца. У сутарэньнях касьцёлу немаведама зь якога часу захоўвалася ў шкляной труне... мумія. Кажуць, тло чамусьці не кранула цела чалавека, дзякуючы якому паўстаў гэты касьцёл. І хаця гісторыя захавала імёны фундатараў – Крыштофа ды Ядзьвігі Зяновічаў, людзкое паданьне ўпарта прыгадвае беднага хлапца-будаўніка, няшчаснае каханьне, заўчасную сьмерць... Так ці йначай, але ў прыфрантавым шпіталі ў 1914 г. памёр паранены нямецкі генэрал. І вось тады самотныя нятленныя парэшткі былі пазбаўленыя свае празрыстае хаціны – у незвычайнай труне павезьлі ў Нямеччыну генэральскае цела, а ў самае кінутае муміі немцы адрэзалі нагу – для аналізаў.

Мінуў час, яшчэ 32 гады праляжала мумія (ці, можа, усё ж мошчы?) у склепе ў новай драўлянай труне, аж увосень 46-га Саветы зачынілі касьцёл. З тае пары таямніца зрабілася цацкаю вясковых хлопцаў.

«А што ж? Тады ж усё можна было. Так... І ў карты зь ёй гулялі, на стула садзілі й гарэлкай паілі, і нават цалаваліся... А мужчына быў магутны. Плечы шырокія. Адзін струк вот такі во!..» – распавядае паджылы засьвірскі дзядзька. Разам зь ім мы йдзем убок ад касьцёлу, дзе рэдкімі цаглянымі аскепкамі праглядвае з-пад зямлі колішняя кляштарная агароджа. Дзядзька даводзіць, як пры канцы 60-х зь ім здарыўся цуд. Але гэтая гісторыя ўжо зусім не пра мумію, а пра тое, як раптам, невядома чаму, закрылі крымінальную справу, заведзеную на яго за тое, што сабраў быў вяскоўцаў ды павёў затуляць драўлянымі шчытамі павыбіваныя касьцёльныя вокны й дзьверы... «А што ж? Каб сабакі не хадзілі ды вароны ня лезьлі... Дык пяць гадоў давалі. Бог ўратаваў. А вокны тыя й тыдзень не прастаялі. Прыехаў прадсядацель із сваімі, ды ламамі ўсё там парушылі, паламалі... Вось так», – уздыхае суразмоўца й, абапёршыся на старэнькі ровар, сыходзіць у бок возера.



А што да муміі, дык у 1985 г. яе ўсё ж пахавалі на лясных засьвірскіх могілках. І з усяе таямнічае ды сумнае гісторыі застаўся толькі просты надпіс на помнічку: «Невядомы чалавек».

Сакавітая кляновая лістота – пурпуровая, жоўтая, бурая, зялёная – павoлі пакідае роднае гольле й пяшчотна лягае на цёплы яшчэ дол, маленькую, нібы лялькавую, капліčку, паўсталую зусім паасобку збоч ад касьцёлу белую адзінокую браму, напаўразбураныя, у пояс вышынёю, ружовыя шулы, што колісь несьлі на сабе важкія вароты прасторнага царкоўніка. І іхны першы ды разам апошні палёт вясёлы й сьветлы. Бо нават лістота адчувае, што сюды, пад велічныя сьцены старадаўняе сьвятарні, якая адужала стагодзьдзі, жыцьцё проста ня можа не вярнуцца зноў. Засьвір.

**Андрэй Захаранка**

**Фота Алеся Лубнеўскага**

# Пятро Машэраў жыве ў Маскве

Унуку першага сакратара КПБ адмыслова пакінулі прозьвішча дзеда. Сёньняшні П.Машэраў працуе ў расейскім міністэрстве замежных справаў. Ён — сын малодшай дачкі партыйнага кіраўніка БССР Алены, якая даўно пасялілася ў Маскве.

Аб гэтым можна даведацца з кнігі «Семья Машеровых», прэзэнтацыя якой адбылася 13 лютага ў Горадні. Яе аўтарка Вольга Пронька — родная сястра Машэрава. Яна гарадзенка, выкладала калісьці ў мэдінстытуце. Напісаць успаміны яе прымусілі дзьве прычыны. Па-першае, яе не задавальнялі кнігі іншых аўтараў пра брата, у якіх часам хапала блытаніны. Па-другое, ніхто не пісаў аб вясковым жыцьці сям'і Машэравых, аб умовах, у якіх гадаваўся Пеця.

Выданьнем кнігі апекаваліся абласныя ўлады. Першым яе чытаў кіраўнік справаў аблвыканкаму Сідорчык, другім чытачом быў начальнік упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі Амелька. У кнізе ёсьць прысьвячэньне нябожчыку А.Дубку за ягоную дапамогу. Большую частку 3-тысячнага накладу бясплатна разаслалі ў школьныя і клюбныя бібліятэкі. Хай, маўляў, ведаюць, як узьнік «наш нацыянальны герой, як выйшаў зь вясковай глухмені», бо гэта ж «ня проста зьяўленьне Хрыста народу».

Успаміналі аб кіраўніку БССР разам цяперашнія сакратары КПБ і ПКБ. Аб тым, як нябожчык любіў прылятаць зь Белавескай пушчы на верталёце, зірнуць, як расьце збажына. Маўляў, у Берасьцейскім раёне сёньня ёсьць «палетак Машэрава». Адзін з сакратароў нават меў зьмястоўную гутарку аб нябожчыку «ў Англіі, у бібліятэцы імя Леніна».

Прэзэнтацыя адбывалася ў абласной бібліятэцы імя акадэміка Карскага. Галянтны партсакратар зрабіў бібліятэкаркам камплімэнт за належнасьць да «самай прыгожай паловы чалавецтва», супакоіўшы пры гэтым, што «ачарненьне партыі — часовая зьява» і што мы ўсё адно прыйдзем да камунізму...


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Аўтарка гаварыла пра брата збольшага штампамі, якіх таксама шмат на 291 старонцы кнігі. Але можна знайсьці і жывыя зьвесткі. Маці — Дар'я Пятроўна — ніколі не жагналася, а пасьля 1920 г. бацькі перасталі хадзіць у царкву. Праўда, да 30-х адзначалі ўсе асноўныя царкоўныя сьвяты, а потым пачалі — савецкія. Абразоў у доме не было, зазначае аўтарка. А яна з малодшай сястрой ужо былі няхрышчаныя. Усяго дзяцей было пяцёра. Бацька ня піў, не курыў і ня лаяўся. Маці любіла сьпяваць, асабліва «Карабейнікі» і «Сьцеп да сьцеп кругом».

Для контрасту апавядаецца аб сям'і бацькавага брата Міхаіла, у якой елі «зялёную капусту і бульбу ў мундзірах» і дзе ўсё было «церазь пень-калоду, усё гніло, абсыпалася, прападала». А сям'і Мірона, трэба думаць, зайздросьцілі. Аднойчы хтосьці разрабаваў куфар з пасагам. Іншым разам скралі швейную машыну «Зынгер».

Дзеці адбывалі радоўку. Старога лесу, які называўся «Камітэт», не любілі, мала там было травы. Лепшым быў малады — «Ляда». У сям'і быў сабачка Букет.

Аўтарцы запомніўся зімовы выпадак. Пятрок вяртаўся са школы па рацэ. Суседзкі хлопчык зь мянушкай «Бабулька» абазваў яго кепскім словам. Тады «Пётра яго разуў, закінуў валёнкі на высокі бераг і пайшоў».

У 30-м у вёсцы Шыркі, дзе было 22 хаты, пачалі ствараць калгас. Машэравым давялося ўсё сваё аддаць — зямлю, плуг, саху, барану, вазок, сячкарню, арфу. Засталася адно карова Пацеха. Даволі сымбалічна. У першую ж зіму статак «абагуленых кароваў» і ўсе калгасныя коні згінулі праз нястачу корму, хоць раней сена заўжды хапала. За працадні нічога не плацілі. Усё раскрадалася, жыць рабілася горш і горш. На агародах забаранялі сеяць жыта і ячмень. Сенакосу не давалі, саломы з калгасу — таксама. Нават калі хто сам накосіць сена ў лесе або на балоце і прынясе на плячах – усё адно забіралі ў калгас.

Не зважаючы ні на што, Машэравы рабілі ў калгасе: «працадзён у сям'і было шмат, але іх не аплочвалі». У 1931—33 г. елі цуру — суп з вады, хлеба й цыбулі. Ратавала раньняя гародніна і боб. Пеця хадзіў у школу — па 16 км у дзень, а «ў кішэню браў пражаны боб». Аднак аўтарка ня ставіць пад сумнеў калгаснай сыстэмы. Маўляў, у іх папросту быў п'яніца-старшыня, прысланы з гораду, таму ўсё было кепска і людзі гібелі. А вось у суседнім калгасе кіраваў тутэйшы мужык, і жытка была сытная...

Галаву сям'і, Мірона Машэрава, у сьнежні 1937-га арыштавалі, а праз тры месяцы ён памёр у зьняволеньні ад сэрца. Ва ўсякім разе, так паведамілі сямейнікам. Праўда, паведамілі толькі пасьля вайны.

**Сяргей Максімовіч**

**В.Пронько, «Семья Машеровых», біяграфічная аповесьць, выданьне абласной друкарні, Горадня, 2000.**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Гістарычны альманах**: Навук., гіст. і краязн. часапіс. № 1 (3), 2000 г. – Горадня, 2000. – 188 с. – Наклад 200 ас.

*Новы гістарычны часапіс выходзіць у Горадні пад рэдакцыяй Алеся Краўцэвіча. Сярод матэрыялаў гэтага нумару: А.Кіштымаў дасьледуе эканамічныя падваліны беларускае дзяржаўнасьці пач. XX ст., С.Токць вывучае беларускі нацыянальны рух 1920-х праз дакумэнты польскае паліцыі, А.Краўцэвіч разглядае «беларусацэнтрычную» канцэпцыю паходжаньня Вялікага Княства Літоўскага ў артыкуле «Па сьлядох Міколы Ермаловіча».*

**Прыстань ваўкалакаў**: Чарадзейныя казкі: Для дашк. і мал. шк. веку / Уклад. А.Гурскі, Мастак У.Савіч. – Менск: Юнацтва, 2000. – 349 с.: іл. – Наклад 4000 ас. ISBN 985-05-0325-4

*Кніга мае вялікі фармат, аздобленая мноствам малюнкаў мастака Ў.Савіча. Гэта, бадай, найлепшы збор чарадзейных казак для дзяцей. Каштуе 2,6 т.р*

І.Шамякін. **Пошукі прытулку**: Аповесьці: Для ст. шк. веку / Маст. У.Аніська. – Менск: Юнацтва, 2001. – 350 с. – Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0430-7

*Ня толькі любцом творчасьці аднаго з апошніх «зуброў» беларускае савецкае літаратуры будзе цікавая аўтабіяграфічная аповесьць Івана Шамякіна «Слаўся, Марыя!»*

І.Шамякін. **Сэрца на далоні**: Раман. – Менск: Мастацкая літаратура, 2001. – 414 с. – (Бел. проза XX ст.) – Наклад 4200 ас. ISBN 985-02-0367-6

*Адзін з найлепшых раманаў І.Шамякіна прадаецца ў кнігарнях усяго за 750 р. – гэта густоўна аздобленая кніга з сэрыі «Беларуская проза XX ст.»*

**Хроника несостоявшегося времени**: Десять лет в зеркале «Белорусского рынка». – Менск: УП «Тэхнапрынт», 2001. – 336 с.: іл. – Наклад 2000 ас. ISBN 985-6373-81-6

*Гэта зборнік аналітычных артыкулаў аб праблемах сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця Беларусі ў 1991—2000 г., складзены на падставе багатага факталягічнага матэрыялу й дзесяцігадовага маніторынгу падзеяў, фіксаваных журналістамі «Белорусского рынка». Аўтары спрабуюць дасьледаваць адметныя рысы станаўленьня беларускае дзяржаўнасьці праз адлюстраваньне розных аспэктаў жыцьця краю за апошнія дзесяць год.*

Х.Нюнька. **Мае ўспаміны**. – Вільня: Выд-ва «Jusida», 2000. – Наклад 300 ас. ISBN 9955-9337-1-2

*Хведар Нюнька, старшыня Таварыства беларускае культуры ў Літве, у кнізе ўспамінаў расказвае пра памятныя імгненьні мінулага стагодзьдзя.*

**Віктар Мухін**

## Аляксандар Лукашук

# Why Do You

Браты Райт пахавалі памежную геаграфію раз і назаўсёды: дзяржаўная мяжа цяпер праходзіць у любым месцы дзяржавы, дзе ёсьць міжнародны аэрапорт.

Нічыйная зона, як кокан, ахоплівае самалёт, і калі на борце няма пары-тройкі тэрарыстаў, калі ніхто не падкладзе гадзіньнікавай бомбы і ніякі зьнішчальнік ня вылеціць на перахоп, можна нацягнуць слухаўкі, уключыць канал з клясыкай рок-н-ролу на ўсю гучнасьць, заплюшчыць вочы, і алюміневая цыгара выплюне цябе на іншым канцы сьвету — праз пэўную колькасьць міляў, гадзінаў і рок-альбомаў.

*Flew in from Miami Beach BOAC,*
*Didn't get to bed last night.*
*On the way the paper bag was on my knee.*
*Man, I had a dreadful flight.*

Трапічная вільгаць прапітвае вопратку зь першых крокаў па Рыа-дэ-Жанэйра, у Шарамецьева ад выхлапных газаў працуючых на марозе таксі сьлязяцца вочы, калючы пясок Каіру імгненна забіваецца пад каўнер, і распалены пыл пірамідаў апякае гартань.

Праходзіць колькі хвілінаў – і нешта шчоўкае ў вушах, стабілізуецца ціск. Адно гэта нагадвае, што толькі што ты быў на вышыні дзесяць тысячаў мэтраў, а зараз ужо на ўзроўні мора.

— Чаму вы гаворыце па-ангельску? — спытаў мяне афіцэр-памежнік у лёнданскім Гітроў.

*I'm back in the U.S.S.R.*
*You don't know how lucky you are, boy.*
*Back in the U.S. Back in the U.S. Back in the U.S.S.R.*

Мне не пашанцавала з чаргой – дакумэнты чарнаскурай парачкі, якая стаяла наперадзе, аказаліся не ў парадку, і мы застраглі ў адгароджаным бар'ерам праходзе. У суседнюю чаргу перабягаць не было сэнсу – там таксама стаяла пара падазроных асобаў.

Зрэшты, вымяраць, якая чарга рухаецца хутчэй, — справа нэрвовая і марная (як, дарэчы, і спробы вызначыць, хто падазроны, хто не). Колькі разоў я назіраў за бясплёнымі намаганьнямі злавіць прывідную ўдачу – апярэдзіць суседзяў, першым пакінуць надакучлівае чэрава самалёта. Трап яшчэ не пададзены, люк зачынены, але ўстрывожаныя пасажыры ўжо дыхаюць адзін аднаму ў патыліцу ў вузкім праходчыку паміж крэсламі, пераступаюць з нагі на нагу, пнучца зазірнуць наперад. Мала хто вытрымлівае псыхічны ціск і застаецца спакойна сядзець у крэсьле.

Магчыма, нейкая інэрцыя руху пасьля тысячамільнага пералёту гоніць падарожніка да запаветнай мэты. Мэта, праўда, часцяком мае выгляд аэрапортаўскага аўтобуса, у якім той, хто спусьціўся па трапе апошнім, становіцца ля дзьвярэй і па прыбыцьці робіцца першым. Але мала хто чытае Біблію ў дарозе.

*Been away so long I hardly knew the place.*
*Gee, it's good to be back home.*
*Leave it till tomorrow to unpack my case.*
*Honey, disconnect the phone.*

Аднойчы, пералятаючы «Люфтганзай» зь Мюнхэну ў Менск, я сядзеў побач з акуратна апранутым спадаром, які паўз увесь палёт вывучаў таўсьценны даклад на ангельскай мове. Мой позірк міжволі зачапіўся за слова "Беларусь", мы загаварылі – сусед выявіўся экспэртам у аграрных справах нейкай галяндзкай арганізацыі і з энтузіязмам распавядаў пра эўрапейскія пляны рэарганізацыі беларускіх калгасаў і міністра-рэфарматара. Мой стрыманы скептыцызм што да магчымасьці любых рэформаў у беларускім палітычным клімаце так абурыў суседа, што той нават не разьвітаўся на выхадзе з аэрапорту. Сустракаў яго сам міністар сельскай гаспадаркі, тады яшчэ ня зэк...

*I'm back in the U.S.S.R.*
*You don't know how lucky you are, boy.*
*Back in the U.S. Back in the U.S. Back in the U.S.S.R.*

— Чаму вы гаворыце па-ангельску? — пытаецца памежнік.

Што ён мае на ўвазе? Магчыма, ён чакае, што пасажыр, хутчэй за ўсё, мусіць гаварыць па-кітайску – так, прынамсі, вынікае з дэмаграфічнай статыстыкі. Па-кітайску я магу сказаць толькі "се-се", што азначае "дзякуй", але памежнік не рэагуе, і я здагадваюся, што дэмаграфія не супадае са статыстыкай пасажырапатокаў.

Адзін мой знаёмы пашырае свой лінгвістычны арсэнал тым, што падчас кожнай выпіўкі з замежным субутэльнікам вучыць на памяць прыслоўе на ягонай мове. Якраз у самалёце я сядзеў побач з шатляндцам і вывучыў новы выраз:

*"Slainte mhath!"*

— Вы гаворыце і па-шатляндзку?.. — памежнік забірае пашпарт і выходзіць.

Быць можа, ён ненавідзіць шатляндзкіх сэпаратыстаў? Альбо трымаецца ідэі адзінай і непадзельнай Вялікай Брытаніі з шатляндзкімі спадніцамі ўключна?

*Well, the Ukraine girls really knock me out,*
*They leave the West behind.*
*And Moscow girls make me sing and shout*
*That Georgia's always on my mind.*

Праход ніхто не ахоўвае, і пры жаданьні можна пайсьці вонкі — але ж давядзецца вяртацца. Зрэшты, у мяне самыя цёплыя ўспаміны пра аэрапорт Гітроў – аднойчы я здолеў нелегальна вывезьці з СНД, увезьці ў Вялікую Брытанію і пасьля вярнуць дадому грамадзянку Беларусі. Мала таго, што па чужым пашпарце, дык яшчэ і па мужчынскім.

Грамадзянцы было 14 гадоў, і яе ў апошнюю хвіліну ўключылі ў групу чарнобыльскіх дзяцей, якая ляцела на Брытанскія выспы. Ня змог прыехаць адзін хлопчык, і тады, каб квіток і месца не прапалі, вырашылі рызыкнуць. У цягніку зь Менску ў былы Ленінград нэрвова абмяркоўвалі ўмовы канспірацыі – але ўпартае дзяўчо наадрэз адмовілася абрэзаць доўгія шыкоўныя кудзеры. Прапаршчык-памежнік глянуў у люстэрка, замацаванае зьверху ў вузкім праходзе, ласкава папрасіў зьняць кепку – і закручаныя ў тугі клубок валасы хлынулі на плечы.

*I'm back in the U.S.S.R.*

Але СССР ужо ляснуў, Беларусь была бел-чырвона-белага колеру, парадку не было, і прапаршчык, паслухаўшы нашы расказы пра бэкерэлі, кюры і іншыя гарачыя часьцінкі, якія радыкальна зьмяняюць арганізм, махнуў рукой і сказаў: "Пад вашую адказнасьць".

*You don't know how lucky you are, boys.*

Ангельская памежніца таксама бязь цяжкасьці адрозьнівала дзяўчатаў ад хлопцаў – але, пачуўшы чарнобыльскі аповед, задумалася, паглядзела па баках, паставіла спэцадзнаку і прапусьціла. Ня ведаю, што яе ўразіла болей – беларускія бэкерэлі ці лібэралізм ленінградзкіх прапаршчыкаў...

*Back in the U.S. Back in the U.S. Back in the U.S.S.R.*

Пытаньне, чаму я гавару па-ан-

# гарт



*Беларускаму збройнаму чыну пачатку 1920–х прысьвячаецца*

Дзень добры. Мяне завуць Ірэна. Разам са сваімі прыхільнікамі я стварыла суполку “Гарт”, каб разам загартоўваць целы і душы, каб ня зьнікнуць у правінцыйным балоце. Пакуль суполка існуе таемна, інакш нас пахапаюць, як куранят. Балазе, за часамі СССР сыстэма дасканала адпрацаваная, а за апошнія гады грунтоўна палепшаная. А тэза “перамога любым коштам” для Беларусі вельмі шкодная. Бо надурніцу лёгка галаву злажыць – а які з гэтага толк?

Чальцамі «Гарту» сталі: я, мае дачушкі, бібліятэкарка мясцовае школкі і яе 14–гадовы сын, настаўніца нямецкае мовы і яе 13–гадовы сын, паштарка і яе 14–гадовы сын, 33–гадовая лекарка, 65–гадовая пэнсіянэрка (яшчэ моцная кабета!), яе 45–гадовая, 40- і 32–гадовыя дочкі і 10-гадовы сын апошняй, 19–гадовая дзяўчына (маладая настаўніца пасьля пэдвучэльні) і 30–гадовая прадавачка крамы.

У паўсядзённым жыцьці мы не афішуем сваіх стасункаў, размаўляем па-расейску альбо на трасянцы. Спачатку трэба паўстаць, замацавацца, а потым ужо рэпрэзэнтаваць сябе.

Асноўныя мэты нашае суполкі: дасягненьне выдатнай фізычнай формы (загартоўка, абліваньне вадою са студні і купаньне ў рэчцы, абціраньне сьнегам, ёга і сучасныя сыстэмы: шэйпінг, калянэтык і інш.); духовае разьвіцьцё (агульначалавечыя каштоўнасьці, беларуская гісторыя, сьвяты, адраджэньне мовы); псыхалягічныя трэнінгі (добры настрой, як пазбавіцца стрэсаў і інш.). Акрамя таго, ладзім дыскусіі па розных палітычных падзеях у нашай краіне і за мяжой, слухаем беларускамоўнае радыё (“Свабода”, “Рацыя” і інш.), вывучаем ангельскую мову. Рэлігійнага пытаньня мы вырашылі не закранаць, бо да праваслаўя ў нашай мясцовасьці ставяцца абыякава, а каталіцтва не распаўсюджанае.

Фізычныя практыкаваньні (яны адбываюцца на сьвежым паветры ў любое надвор'е) выконваем цалкам агаленымі, як хлопчыкі, так і дзяўчыны ды жанчыны. Лічым, што гэта не супярэчыць ні агульначалавечым каштоўнасьцям, ні нават нормам хрысьціянства. Аб “традыцыях” тутэйшых жыхароў лепш не ўспамінаць.

Першае мерапрыемства нашае суполкі было праведзена на 80–я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Але прысьвечана яно, скажам так, Беларускаму збройнаму чыну 1920–х г. Бо змагаліся супраць бальшавікоў ня толькі на Случчыне, а па ўсёй Беларусі. І сьнежнем 1920 г. змаганьне ня скончылася. На жаль, у гэты час і выявіліся адмоўныя якасьці беларусаў: амбіцыёзнасьць, зайздрасьць, абыякавасьць да навакольнага жыцьця, абмежаванасьць інтарэсаў. Вось чаму Чырвоная армія спачатку загнала войска Булак-Балаховіча ў Польшчу, а потым туды ж адступілі чальцы Слуцкага збройнага чыну... А калі б балахоўцы і случакі дзейнічалі разам, то, магчыма, нашая гісторыя XX стагодзьдзя была б іншай...

Першая акцыя “Гарту” працягвалася каля 30 гадзін запар: з 0 г. ночы 25 лістапада да 6-й раніцы 26 лістапада. На працягу 30 гадзін мы абыходзілі навакольныя лясы з паходнямі, сьпявалі патрыятычныя і народныя песьні. Наперадзе шыхту — бел-чырвона-белы сьцяг. Падчас мерапрыемства цалкам распрануліся і вось так, зусім голыя, зьдзейсьнілі гэны даволі цяжкі пераход. Акрамя таго, адмовіліся ад ужываньня ежы. Пілі толькі крынічную ваду ў абмежаванай колькасьці. А далей – невялікі дзёньнік.

0.00 — Шыхт! Зважай!!! Суполка сабралася ў мяне на падворку. Ноч. Цемра. Аголеныя целы працінае вятрыска. Запальваюцца паходні. У маіх руках трапечацца наш сьцяг. А ва ўсіх на галовах бел-чырвона-белыя стужкі. Сьпяваем “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Потым ушаноўваем сьцяг — суполка нерухома стаіць на працягу 5 хвілінаў (а мо і больш).

0.15. Мы выпраўляемся. Я са сьцягам наперадзе. Каля мяне хлопчык з паходняю. Яшчэ два хлапцы з паходнямі ідуць па баках калёны. Апошняя ў шыхце — прадавачка, таксама з паходняй.

1.00. Прадзершыся скрозь алешнік, выходзім да рэчкі. Ужо ўсе ганяюць дрыжыкі, а баба Соня (65 год) нават не зважае на сібер. Гэтакай трывушчай жанчыны я яшчэ ня бачыла. Пераходзім рэчку. Старэйшы хлопец бярэ на плечы 10-гадовага, а я — дачушку (малодшую). В-о-о-о-й, халодная вада, здаецца, цалкам захопіць у свае абдымкі. Глыбока – ледзь не па шыю – плынь зьбівае з ног. І ўсё ж ідзем. Ды яшчэ й песьню сьпяваем. Галоўнае — паходні ня згасьлі. Нарэшце вылазім на бераг. Крыху адпачываем і зноў у рэчку. Плаваем даволі доўгі час, акунаемся з галавою. Далей — ёга. Робім самыя складаныя практыкаваньні, аж пакуль не становіцца цёпла.

Нарэшце можна крыху адпачыць. У зацішным месцы раскладаем вогнішча, насьцілаем хвойнік. І сьпяваем, сьпяваем, сьпяваем...

4.00. Выпраўляемся ў далейшы шлях. Цяпер прадзіраемся скрозь амаль непраходны гушчар. Босыя ногі трапляюць то на шышкі, то на вострыя галінкі, то ў нейкія ямы. У большасьці чальцоў падрапаныя целы.

А перашкоды не сканчаюцца. Пераходзім вялізную канаву па паваленым дрэве. Задзіраем ногі ледзь не да галавы, каб пралезьці праз бярвеньне. Нечакана перад намі вырастае шчыльны ельнік. Ажно некалькі шнуроў. Адшукваем шчыліну, па адным паўзем на другі бок. У выніку сьпіны моцна паколатыя іголкамі.

Але паходні гараць.

Але сьпяваем (па магчымасьці).

Гушчар скончыўся. Плянавалі выйсьці да возера, дый не атрымалася. Улезьлі ў нейкую багну. Пакуль зь яе выкараскаліся, дык запэцкаліся так, што ніхто не пазнаў бы. Адно вочы блішчаць. Галоўнае — сьцяг застаўся чысты.

Нарэшце дапаўзьлі да возера. Пераправіліся.

Купаньне, ёга, руханка. Памылі бел-чырвона-белыя стужкі. Адпачылі.

6.00. Выйшлі на добрую мясьціну. Далей бег. Беглі па лясной дарозе. Спачатку ўсё добра. Сьцяг трапечацца, жарты і нават размовы. Хутка яны аціхаюць.

Чуваць толькі цяжкае дыханьне.

19-гадовай настаўніцы бегчы нялёгка. Здаецца, вось-вось яна спыніцца. Але ж трывае.

Зноўку зьдзіўляе баба Соня. Яна бяжыць наперадзе! Са сьцягам. Вось вам і 65 год.

Наперадзе круты пагорак. Ледзьве бяжым. Пераадольваем апошнюю перашкоду і спыняемся. Дзяўчына дабягае да дрэва і са стогнамі абхоплівае яго.

8.00. Раніца. Марозік невялікі, але вецер значна ўзмацняе ўзьдзеяньне холаду. Сонца няма.

Ідзем на каленях. Наваколле даволі маляўнічае, нават у такую пару. Сьпяшаемся. Бо такі рытм выпрабоўвае целы і душы.

Вой, гэта ўжо нават для мяне цяжка. Мы стомленыя. Вочы закрытыя. Горача! Ажно ўспацелі! У такое надвор'е!

Нарэшце, дапаўзьлі да невялічкага хлеўчука. Зашываемся ў сена і імгненна засынаем.

У гэты хляўчук мы ўлетку складвалі сена. Даволі далёка ад вёскі, але бліжэйшага сенакосу ня маем.

Спалі вельмі доўга. Прачнуліся пасьля 21.00 вечара. Руханка, мэдытацыя каля вогнішча.

І зноў пераадоленьне перашкодаў. Так да 6-й гадзіны раніцы. Дамоў вярнуліся канчаткова стомленыя, зьмерзлыя, з падрапанымі целамі і зьбітымі да крыві нагамі, галодныя.

Але моцныя духам. Упэўненыя ў сабе. У тым, што многае можам.

Незабыўнае ўражаньне другое начы — марш са сьцягам і паходнямі. Ішлі страявым крокам. Падчас маршу выканалі ўсе вядомыя нам беларускія патрыятычныя песьні.

Такім чынам, суполка “Гарт” дзейнічае!

На гэтым пакуль.

Жыве Беларусь! Посьпехаў!

**Ірэна Ікс**

# Speak English?

гельску, вымагала разважлівага адказу — зь беларускім пашпартам памежнікам лепш не пярэчыць. Гэта людзі асаблівага гатунку, здольныя задаваць неверагодныя пытаньні, якія, аднак, маюць сваю схаваную лёгіку і сэнс.

*I'm back back in the U.S.S.R.*

Неяк на запросіны Гарвардзкага ўнівэрсытэту я ляцеў з Прагі ў Амэрыку зь перасадкай у Лёндане. Прадстаўніца службы бясьпекі амэрыканскай авіялініі ў Гітроў паглядзела на мой пашпарт з авіраўскім дазволам на выезд і спыталася:

— Чаму вам далі дазвол на ўезд?

Традыцыйныя пытаньні на гэтым этапе падарожжа – хто пакаваў чамаданы, ці ня бралі вы перадачаў ад незнаёмых асобаў, – каб часам у багажы не паляцеў чужы герой ці нечая міна запаволенага дзеяньня.

— Мяне запрасілі на канфэрэнцыю ў Гарвардзкі ўнівэрсытэт, — патлумачыў я.

*You don't know how lucky you are, boys.*

Ахоўніца папрасіла запрашальны ліст, некуды пайшла і праз хвіліну вярнулася з начальнікам зьмены. Той паглядзеў у запросіны:

— Тут напісана, што вы выступаеце зь лекцыяй – на якую тэму?

*Back in the U.S.*

Пільны ахоўнік правяраў, ці сапраўды я той, за каго сябе ўдаю. “Ці здольная беларуская апазыцыя зьмяніць сытуацыю ў краіне”, — назваў я тэму лекцыі.

— Ну і як, — спытаўся начальнік службы бясьпекі, — здольная?

Я азірнуўся – за мной у чарзе ў калідоры Гітроў стаялі чалавек сто пяцьдзясят.

— Вам поўны адказ ці кароткі? — пацікавіўся я.

— Можна кароткі, — лагодна пагадзіўся спэцыяліст па барацьбе з тэрарызмам. — Але пастарайцеся адказаць уцямна – я вывучаў паліталёгію ва ўнівэрсытэце.

*Back in the U.S.*

Я азірнуўся яшчэ раз. Пасажыры заўважылі незвычайна працяглы дыялёг і паціху пачыналі адсоўваць каштоўныя рэчы і брацьдзяцей на рукі. Пара дасьведчаных падарожнікаў расчахліла фотаапараты, нехта навёў відэакамэру.

Змагар з тэрарыстамі з паліталягічным ухілам пільна чакаў адказу на пытаньне, якое я вынес у тэму свайго гарвардзкага выступу: ці здольная беларуская апазыцыя дамагчыся пераменаў?

*Back in the U.S.*

— І так, і не, — адказаў я.

— Прапусьціць, — махнуў рукой ахоўнік.

І патлумачыў:

— Менавіта такія адказы яны і даюць на гэтых канфэрэнцыях...

*You don't know how lucky you are, boys.*

*Back in the U.S.S.R.*

Мая ангельская мова, як высьветлілася, зацікавіла памежніка ў аэрапорце Гітроў з вузкалінгвістычнай прычыны – як на ягоны слых, я гаварыў з занадта выразным паўночна-заходнім брытанскім акцэнтам ліверпульскага тыпу (чулі б мае настаўнікі!..) Іміграцыйная служба праверыла, ці не праходжу я ў кампутарах як агент якой-небудзь разьведкі ці мафіі, у чым памежнік мне на месцы прызнаўся і выбачыўся, вяртаючы пашпарт.

*Show me 'round your snow peaked mountains way down south,*
*Take me to your daddy's farm,*
*Let me hear your balalaika's ringing out,*
*Come and keep your comrade warm.*

А я проста люблю *The Beatles*, якія сотні разоў праходзілі па тых самых калідорах аэрапорту Гітроў, што і я, але, у адрозьненьне ад мяне, ніколі не былі ў *the U.S.S.R.*, хаця насамрэч і я ніколі ня быў у тым *the U.S.S.R.*, пра які яны сьпявалі на мове, у якой, як вядома, пішацца *Manchester*, а чытаецца *Liverpool*.

**Эсэ напісана для перадачы “Дазвол на выезд” Беларускай службы Радыё Свабода, www.svaboda.org**



праўда жыцьця

# Беларусы ў савецкім войску

## АРАЎ

Прызвалі беларуса ў савецкае войска. Завезьлі яго некуды на Далёкі Ўсход, у глухое й забытае Богам мястэчка.

У першы дзень сэржант зашыхтаваў усіх “маладых” дый вырашыў паказаць, хто ён тут такі. Па чарзе падыходзіць да кожнага, тыцкае пальцем і пытае:

— Что делал на гражданке?

— Пахал... – адказвае адзін расеец.

— І здесь пахать будешь!

— Что делал на гражданке? – да наступнага.

— Пахал... – прамаўляе другі.

— І здесь пахать будешь! – зноўку перапыняе сэржант.

І так з кожным навабранцам, пакуль чарга не прыйшла да беларускага хлопца.

— Что делал на гражданке?

— Араў... – адказвае беларус.

Сэржанту на імгненьне заняло дух, а пасьля пачуўся роў:

— Здесь я орать буду, а ты будешь, как и все, пахать!

## КЕПСКА Ў РОЦЕ

Прыехаў генэрал-беларус правяраць вайсковую частку. Камандзір часткі ледзьве ў рот тому не глядзіць, завіхаецца. А генэрал ходзіць хмурны і ўсё мармыча сабе пад нос:

— Кепска ў роце, кепска ў роце, кепска ў роце...

Камандзір часткі ўжо дрыжыць, думае – без пагонаў застануся.

Павялі генэрала ў сталоўку. Тая аж блішчыць. А генэрал адно ўсё:

— Кепска ў роце, кепска ў роце, кепска ў роце... .

Тут выцягваецца няведама адкуль п'яны маёр-беларус з пляшкай гарэлкі дый кажа генэралу:

— Ну, дык можа па сотачцы прычасьцімся?

Усе вакол генэрала ступянелі, а той сёў за стол дый выпіў зь ім шклянку гарэлкі.

— Во, — кажа, — цяпер добра ў роце!

## ЁН ЕСЬЦЬ

Падыходзіць адзін навапрыбылы афіцэр да салдата-беларуса й пытаецца:

— Где прапарщчык Іваноў?

— Ён есьць! – адказвае салдат.

— Я знаю, что он есть, но где он?

— Ён есьць! – зноўку паўтарае салдат.

— Да где он, дубина, спрашиваю, есть?

— Да ў сталоўцы ён есьць, таварышч лейтэнант.

**Равяка Руслан**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# “Наша Ніва” ў Горадні

*У чацьвер 22 лютага ў Горадні адбудзецца сустрэча з в.а. галоўнага рэдактара “Нашае Нівы” Андрэем Дыньком, галоўным рэдактарам часопісу “ARCHE” Валеркам Булгакавым і пісьменьнікам ды сьпеваком Зьмітром Бартосікам. Запрашаем усіх у гарадзкі дом культуры (вул.Дзяржынскага, 1) а 19-й.*

прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Віншую вэтэранаў** і рэзэрвістаў беларускай краёвай абароны з угодкамі стварэньня БКА – 23 лютага

**Віншуем Крысьціну Сідун** з Днём народзінаў. Будзь шчасьлівай і будзь разам з намі! Сябры ЗБС

**Шаноўную Дануту Чыгір** віншуем з Народзінамі! Зычым шчасьця, свабоды, здароўя! Валера й Алена

**Найпрыгожага фатакора бабруйскага “Рабочага”** віншуем з народзінамі. Даначка! Каханьня табе. Мы цябе любім. Усе, што з “Рабочага”

**Любае маё сонейка!** Віншую! Кахаю! Зычу! Чаго? Безумоўна, каханьня і ўзаемапаразуменьня! Маленькая вар'ятка

**Усю прэсавую службу “Маладога Фронту”** віншую з Днём сьвятога Валянціна. Усяго, шаноўныя! Кахайце й жывіце вольна. Маленькая вар'ятка

**Андруся Мельнікава** са сьвятам закаханых. Андрусю, Каханьня табе! І няма чаго бурчэць. Тая, што з Бабруйску

**Шаноўныя нашаніўцы!** Віншую ўвесь ваш калектыў. Любові, свабоды ды пераменаў (у лепшы, больш вольны бок існаваньня). Маленькая вар'ятка

**Андрусю Мялешка!** Са сьвятам! Кахай!.. Ды не кажы, што я злая. Я проста "прыколваюся". Часьцей усьміхайся! Алена, што з Бабруйску

**Усіх беларусаў-крывічоў** з Днём сьвятога Валянціна!!! Уладзіслаў Жыгалка

**Валерачка!** Раднуля! Віншую. Я Цябе кахаю, кахаю, кахаю. Ды не чакай свабоды й пераменаў з майго боку. Аленачка

**Міленькі мой Валерачка!** Віншую. Напэўна, варта папярэдзіць цябе, што ты ад мяне не адчэпішся (дакладней, я) бліжэйшыя год 100! Кахаю. Маленькая вар'ятка

**Шаноўны Вітаўце Пісарыку!** Віншую цябе са сьвятам. Сямейнага шчасьця. Усяго! Маленькая вар'ятка

**Юрасіку!** Ты самы дарагі чалавек для мяне. Моцна кахаю. Маленькая

**Дарагая Златка!** Віншую цябе з шаснаццацігодзьдзем. Жадаю шчасьлівага жыцьця ў вольнай Беларусі! Акацыя

**Любыя Алена і Сяржуку!** Сардэчна віншуем вас з пабраньнем шлюбам. Аляксей і Тоня

**Маша, ты маё жыцьцё.** Ты мая адзіная зорка на ўсім небе. Я цябе вельмі кахаю!

**Каханы мой Русецкі!** Віншую цябе з Днём сьв.Валянціна ды з трынаццацьцю!!! Як заўсёды, кахаю. Вальжына

**Шаноўны Пятро Ламан!** Вучні і настаўнікі Езярышчанскай школы вельмі ўдзячны Вам за найцікавейшую сустрэчу

**Мілую і дарагую Кацечку Коптураву** з Днём народзінаў! Заставайся заўсёды такой вясёлай і добрай

**Ад шчырага сэрца** ў дзень нараджэньня жадаю Вам радасьці, сьветлай надзеі, шчасьця ў будні, шчасьця ў сьвяты, хай добрыя людзі прыходзяць у хату, няхай будзе з Вамі здароўе і сіла, жыцьцё няхай будзе доўгім, шчасьлівым.

**Шаноўная Кацярына**, хай гэты дзень прынясе Вам многа радасьці, любові.

### дача

**Гуляюць голыя** 8 сотак у Адцэдзе. Ехаць на Стоўпцы з гадзіну. Т. (у Менску): 253-80-81

### друкарка

**Аддам ахвотным** старую папсаваную габарытную друкарку “Ятрань”. Транспарт намаганьнямі ахвотных. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### ідэі

**“Зубр”** яшчэ не нарадзіўся, а ўжо ўвесь Менск спаскудзіў нехта “Зубром”. Адпаведнае будзе і да “Зубра” стаўленьне! Прыхільнік чысьціні сьцен

**Кантэксты ўсіх краін** – яднайцеся! kantekst@tut.by

**Гэй, маладафронтаўцы!** Бацькаўшчына чакае нас. Яна спадзяецца менавіта на нас у гэты адказны час. Выратуйма Беларусь! Маленькая вар'ятка

**Няма рэальных ворагаў у Шніпа!** На жаль, ён сам сабе (ці нам, ці вам) вораг, інакш ня зьдзекаваўся б... Аўтар ненадрукаваных с/г

**Сьцёб у музыцы** – гэта сапраўды прыкрае зьявішча! Згодзен з нашаніўскім слухачом. Аматар прыгожае музыкі

**Гляньце на зорку Вэнэру (Мілавіцу)** вечарам, як прасіў М.Багдановіч, а сьветлыя згадкі дасылайце ў “Нашу Ніву”. Ганьне

**“НН”!** Ці ня сорам так адказваць Ганьне Матусевіч? Пасаромцеся!

**Бацька** ўвесь час нясе несусьветную брыду, але ліцэй і В.С.П. гэта Near Bird. Беларусь у Эўропу! Маладыя навапалачане

**Мы жывем ня кепска**, мы жывем ня блага – на твары ўсьмешка, сякера пад лавай. Ліцэй

**Няхай жыве БПС!** Легальны

**Спадарства!** Як нам выкараскацца з асыміляцыйнай багны? Чакаю вашыя прапановы! 220012, Менск, Акадэмічная 3-19

**Адзін сабака** купіў тэлефонны даведнік ды пакінуў яго для агульнага карыстаньня, а Граждан схапіў даведнік і зьнёс дадому

**Адзін сабака** зрабіў Грaждану заўвагу, а той пачаў брахаць

**Аднаго сабаку** Граждан назваў шчанюком, а сабака спачатку пакрыўдзіўся, а потым падумаў: добра, што назвалі не старым псюгам

**Адзін сабака** ведаў пра цэнтар сувязі з ваеннымі караблямі Расеі, а Граждан вырашыў, што там падтрымліваюць сувязь зь беларускай Атлянтыдай

**Адзін сабака** перастаў вітацца з Грaжданом, а Граждан пачаў скардзіцца на сабаку начальству

### каляска

**Вазьму крутую каляску** для хлопца-немаўляці і пральную машыну-аўтамат. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### кантакты

**Спадару Ліпінскі,** дзе Вы? Адгукніцеся, калі ласка.

**Гэй, дзяўчына,** што дасылае ў "НН" інфармацыю з Бабруйску. Зьвяжыся з тутэйшым Маладым Фронтам. E-mail: elena2000@land.ru. 213807, Бабруйск, а/с 11. Алена, што з Бабруйску

**Спадару Юрасю!** Усьміхайцеся часьцей! Гэта Вам да твару, а мне – да душы. Алена

### кнігі, пэрыёдыка

**Набуду: “Беларускі кнігазбор”** (Ян Чачот, Максім Багдановіч, В.Ластоўскі, Уладзімер Жылка, Беларускія летапісы і хронікі). Т.: 269-21-03

**Штонядзелю** на ДК Трактарнага завода (10.00–14.00) сэктар беларускай літаратуры. Кнігі, філятэлія, аўдыё, пошук, кансультацыі

**Куплю “Практычны Расейска-Беларускі слоўнік”** Байкова, Гарэцкага; вялікі расейска-беларускі слоўнік. Менск, вул.Кастрычніцкая, 10а, 301б

**Набуду кнігі “Меншчына ў легендах і паданьнях”** і першую кнігу “Беларускіх народных прыкмет і павер'яў”. Т.: 249-23-25

**“Здубавецьце”** – дасьціпны фальклор у апрацоўцы майстра слова Рыгора Барадуліна. На Румянцава, 13 і Варвашэні, 8 апошнія 100 асобнікаў.

**Вершы і проза: “Корпус”** – постмадэрнізм, віртуальнасьць, архаіка, мэтажанры. Акадэмкніга (Францыска Скарыны, 72)

**Рэдкія кнігі:** фальклор, этнаграфія, культуралёгія (Беларусь, Протаіндыйская цывілізацыя, Паўночная Амэрыка і інш). ДК Трактарнага заводу штонядзелю з 10.00 да 14.00

**Прадаю кнігі з хатняе бібліятэкі.** Вышлю каталёг на замову. т.: 272-81-98, 220116, Менск, а/с 272.

### маркі

**Дашлю маркі:** Пагоня, Нацыянальны сьцяг. Ад Вас капэрта+купон б/а. 220030, Менск, а/с 195 (маркі)

### музыка, відэа

**Прымаем заяўкі на мульцікі** ды аўдыёкасэты для дзяцей. Тэлефон у Гомлі: 45-11-51 (пасьля 18.00)

**Здымкі сямейных падзеяў** бытавой відэакамэрай "Sony Handycam 8mm". Тэлефон у Гомлі: 48-95-09

**Прымаем заяўкі** на відэафільм "Матрыца". Тэлефон у Гомлі: 45-11-51 (пасьля 18.00)

**Беларускамоўнае відэа ў Гомлі**: "Адважнае сэрца", "Ісус" ды інш. Т.:45-11-51 (пасьля 18.00)

**Шукаю якасны запіс** музыкі і песень зь фільмаў "Эманюэль" і "Вяртаньне Эманюэль". Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Шукаю музыкаў** для супольнай работы над маімі песьнямі. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**CD “Я нарадзіўся тут”**, “Сьвяты вечар”, “Ur'ia”, “Вольныя танцы”, а таксама шмат чаго іншага зь беларускай музыкі (касэты, значкі, майкі, плякаты). 220085, Менск, а/с 5. Т.: (017) 249-08-88. supranovich@dyjaryush.org.by

### net

**“Сьвятая дуброва”** – паганства, этнічныя штуды, народніцтва, кансэрватыўная рэвалюцыя, ультранацыяналізм, геапалітыка, эзатэрыка, мэтафізыка – Крыўя. http://www.dubrova.cjb.net

**“Незалежны Барысаў”** – гэта навіны аб падзеях гораду, а таксама зьмястоўная інфармацыя пра нашыя арганізацыі barysau.sity.org

### праца

**Мужчына з вышэйшай адукацыяй**, ведаю польскую і беларускую мовы, досьвед кіроўцы. Шукаю працы. Т.: 250-50-23

**Дапамагу пачаць** сваю справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе. Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### слыхавы апарат

**Прадаю слыхавы апарат “Otikon”** (Данія), кішэнны, ня новы. Т. (у Гомлі): (0232) 45-11-51








паштовая скрынка

**Андрэю В. зь Менску.** Хіба гэтыя зьвесткі пра Францішка Савіча нідзе раней не друкаваліся? Калі не, тады Ваш артыкул недастаткова аўтарскі, мастацкі, літаратурны. Зашмат у ім дыдактычнасьці й чапурыстасьці. Дух часу не ўваскрошаны. У Вяляцічы варта было б выбрацца, дый у Вільню, зь яе духам і архівамі. **Зьмітру М. зь Менску.** Тое самае і з Вашым артыкулам пра Віктара Хэльтмана. І Вам раім пачаць дасьледаваньне з паездак у Вярховічы і Вільню, а тады пісаць.

**Лін-ку С. з Кобрыня.** «Не займацца самаедзтвам» — цікавая тэма для далейшага роздуму і тлумачэньня, што гэта значыць. Усё астатняе бясспрэчна і ўжо прамоўлена спсп.Пазьняком і Шарэцкім, таму не друкуем.

**Віталю А. зь Менску.** Тое, чаго панадусім шукаюць і прагнуць сябры Вашай арганізацыі, можна вызначыць хутчэй як «каханьне», чым як «улада». Таму й не дасягаюць «вынікаў».

**Паўлу Б. з Полацку.** Вы напісалі ўсё адно, як для знаёмых. Многа незразумелага. Калі сам у Полацку не жывеш, дык і ня ўцяміш, паставілі той помнік ці гэта яшчэ толькі праект. Малюнак кажа, а словы не апісваюць. А «Пра хлеб» — сардэчна. Бярэм у працу.

**Ганьне С. з Койданава.** Мір.

**Міколу Б. з Дубровы.** Парабала з пэруанскім творам харошая, але асобна не глядзіцца. Тут больш прыдасца б «рымэйк» яго пад беларускія рэаліі.

**Уладзіку Г. з Страсбургу.** Пра гэтую праблему ў беларускай мове Вы ўжо аднойчы пісалі. Цікава было б даведацца, як яна вырашаецца ў Францыі і якія дыскусіі точацца вакол яе.

**Ярашу М. зь Менску.** Пра "Троіцу" – яшчэ не рэцэнзія, а анатацыя. Замнога тэхнічных дэталяў, галоўнае ня вылучана. Варта было б падрабязьней распавесьці пра фэстываль, асабліва калі яго ладзілі фрызы.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| заснавальнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**

 6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3710.
Нумар падпісаны ў друк 18.2.2001.
Замова № 959.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а



## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

____________________________________

Імя і прозьвішча ____________________
Адрас, тэлефон______________________